№ 21 (858) 4 чэрвеня 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Драздцы №2

## Як чыноўнікі атрымалі зямлі на $10 000 000

Расследаванне «НН» — старонкі 3—7.

**In memoriam**

### Памёр Генадзь Бураўкін

«Ён мог стаць беларускім Бразаўскасам».
**Старонка 11.**



**Палітыка**

### Лябедзька ідзе ў прэзідэнты

Палітыка пераабралі кіраўніком АГП.
**Старонка 8.**



**Здарэнні**

### Смерць на веладарожцы

Начное катанне на ровары скончылася трагедыяй.
**Старонка 10.**



**Літаратура**

### Прэмію Гедройца атрымаў Бабкоў

Урывак з рамана «Хвілінка».
**Старонка 13.**



### Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# З Данбаса пайшоў «Груз 200»

Пад кантролем баевікоў застаюцца Данецк і Луганск.

Сітуацыя ва Украіне стабілізавалася — але гэта стабільнасць, пра якую дактары кажуць «стан стабільна цяжкі».

Расія не адключыла з 2 чэрвеня газ, як пагражала. Відаць, не захацела страшыць Еўропу, каб тая сама не злезла з расійскага газавага кручка. Еўракамісія і без таго рэкамендавала краінам ЕС спыніць будаўніцтва газаправода «Паўднёвы паток».

На расійска-ўкраінскіх перамовах пры пасярэдніцтве еўракамісара па энергетыцы немца Этынгера намеціўся кампраміс. Цана складзе ад 350 да 380 даляраў за куб. Гэта не 485, якія Расія патрабавала адпачатку. Але і не 170, за якія атрымлівае Беларусь. А значыць, газавая труба па-ранейшаму будзе ўдаўкай на шыі ўкраінскай гаспадаркі.

У Данбасе працягваюцца ваенныя дзеянні абмежаванага маштабу. Пад кантролем баевікоў застаюцца Славянск, Краматорск, большая палова Луганшчыны.

У аўторак украінскія дэсантнікі і Нацыянальная гвардыя штурмавалі Чырвоны Ліман. З украінскага боку загінулі двое, 15 жаўнераў паранена. У баевікоў страты большыя: яны самі прызналі пяцёра забітых.

Горача было і ў Луганску. У панядзелак тэрарысты пачалі штурм рэгіянальнага камандавання ўкраінскіх пагранічнікаў. Унутры гэтай вайсковай часткі абараняюцца 130 байцоў. Украінскія самалёты знішчылі два мінамёты, якімі былі ўзброеныя нападнікі.

Мяжа і памежнікі — гэта самае ўразлівае месца для ўкраінскай арміі. Генералы прызнаюць, што пагранцы аказаліся, фактычна, на занятай ворагам тэрыторыі. Дасылаць ім сухапутную падмогу рызыкоўна, бо лёгка нарвацца на засаду ці аказацца ў атачэнні. Але і зняць пагранпасты не здымеш, бо тады ручаінай зброі праз украінскую мяжу ператворацца ў патокі.

Расійскія СМІ бясконца гавораць пра «апалчэнцаў», «мірнае насельніцтва», «бандэраўцаў», тады як поўным ходам ідзе «гібрыдная вайна» — вайна без абвяшчэння вайны, малымі сіламі.

ЗША на мінулым тыдні адмовіліся надаць Украіне ваенную дапамогу, зброю. Гэта такі сігнал Маскве — мы хочам, каб украінцы самі вызначалі свой лёс, але са зброяй на вашы граніцы не пасунемся. Але гэта фактычна развязвае рукі Маскве. Стрымлівае Крэмль толькі неакрэсленая іміджавая шкода.

Украінская армія робіць тое, чаго ніхто ў краіне не хацеў — вучыцца ваяваць у рэальных умовах, той састарэлай савецкай зброяй, якую мае. Усё часцей украінцы ўжываюць авіяўдары.

Расійскія СМІ працягваюць татальную кампанію хлусні і дэзынфармацыі. Расійская журналістка Марыя Турчанкова апублікавала ў інтэрнэце шакуючы рэпартаж, як яна суправаджала да мяжы з Расіяй рэфрэжыратар, на бартах якога былі намаляваны крыжы і напісана вялікімі лічбамі «200». Гэта ў трунах везлі на радзіму 31 расійскага афіцэра. Усе яны загінулі пры спробе захапіць аэрапорт Данецка. «Ніводзін расійскі тэлеканал не паведаміў, што 31 грамадзянін Расіі загінуў 26 мая ў Данецку», — узрушана піша журналістка. Яна прыводзіць прозвішчы забітых — сярод іх аказаўся вядомы інструктар Цэнтра спецыяльнага назначэння ФСБ Расіі Сяргей Ждановіч.

«Ніхто не патлумачыў, дзеля чаго яны загінулі, — піша расійская журналістка, — як трапілі на гэтую вайну, хто раздае зброю і хто сустракае труны з наклейкамі ДНР».

**Мікола Бугай**


МАРЫЯ ТУРЧАНКОВА

На рэфрэжыратары намалявалі крыжы і лічбы «200»



**26 мая ўкраінскія дэсантнікі знішчылі не менш чым 55 баевікоў, што спрабавалі захапіць аэрапорт Данецка.**

**Данбас чакае міру**

«Чырвоны Ліман ужо вызвалілі. Ура! Хутка і мы. Слов'янск — це Україна!!! Слава Україні!!!» — такі твіт апублікавала ў аўторак украінка са Славянска Anna Korovchenko @anjutka_anna.

**Лічбы на сэрцы**

181 чалавек загінуў у выніку баявых дзеянняў на Данбасе.

**Андраш Рац: Беларусь не змагла б адказаць на гібрыдную вайну нават так, як украінцы**

Такую думку венгерскі палітолаг выказаў на канферэнцыі «Беларусь на авансцэне Еўразіі: між Масквой і Кіевам», што адбывалася 31 мая — 1 чэрвеня ва Універсітэце Лазарскага ў Варшаве.

«Расія не толькі гатовая дэстабілізаваць сітуацыю ў суседніх краінах і парушаць устаноўленыя межы, але і ганарыцца такімі сваімі дзеяннямі», — сказаў Рац. Масква гатовая ўжываць інструмент «гібрыднай вайны» ў замежнай палітыцы ў дадатак да традыцыйных інструментаў. «І няма яснай стратэгіі, як абараняцца ад гібрыднай вайны», — кажа Рац.

У той жа час падзеі ва Украіне паказалі, што «некалькі сотняў дыверсантаў ці штурмавікоў могуць захапіць шмат будынкаў і выклікаць вялікі хаос, але не здольныя ўтрымаць тэрыторыю даўжэйшы час ад наступу рэгулярнай арміі», — кажа Рац.

Падзеі ў Данбасе паказалі, што для прадухілення гібрыднай вайны патрэбная моцная мяжа, каб у краіну не пранікала зброя. Але Беларусь не мае мяжы з Расіяй, адзначае Рац.

Украінскія падзеі таксама паказалі, што «сілавыя структуры былі масава інфільтраваныя расійскімі агентамі», — адзначае Рац.

У выніку кіраўнік Чарнаморскага флота Украіны заклікаў маракоў перайсці пад сцягі Расіі. Пасля здраднікамі аказаліся высокапастаўленыя афіцэры групы «Альфа», у выніку чаго пад Славянскам загінуў кіраўнік гэтай структуры.

На думку Раца, сітуацыя з сілавікамі ў Беларусі можа быць або такая ж кепская, або яшчэ горшая.

Венгерскі палітолаг робіць выснову, што на сёння Беларусь застаецца слаба абароненай ад пагрозы з усходу.

Калі Масква ў той ці іншы момант вырашыць ліквідаваць беларускую дзяржаўнасць, Беларусі няпроста будзе бараніцца.

**Лукашэнку запрасілі на інаўгурацыю Парашэнкі**

Новаабраны прэзідэнт Украіны прыняе прысягу на вернасць украінскаму народу 7 чэрвеня. Пуціна на цырымонію не запрашалі. А вось кіраўніка Беларусі — запрасілі. Ці ён паедзе, пакуль невядома.

## Сціслa

**Колькасць зуброў вырасла ў тры разы**

На тэрыторыі Белавежскай пушчы знаходзяцца 1 134 асобіны гэтай жывёлы. За апошнія 20 гадоў колькасць зуброў у Беларусі павялічылася больш чым утрая.

**358 прастытутак**

Столькі затрымалі ў Мінску падчас чэмпіянату свету. З іх 199 прапаноўвалі свае паслугі праз інтэрнэт, 132 былі затрыманыя на вуліцах і аўтатрасах, 27 — у гатэлях і начных клубах. Амаль усіх прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ці адміністрацыйнага арышту.

**Чума не здаецца**

Новыя ўспышкі афрыканскай чумы свіней зарэгістраваны ў Польшчы і Смаленскай вобласці Расіі. У сувязі з гэтым Міністэрства сельскай гаспадаркі Беларусі папярэджвае пра недапушчальнасць увозу свініны з небяспечнай тэрыторыі.

**Прэс-службу Лукашэнкі ўзначаліў Андрэй Папоў**

Ён ураджэнец Брэста, выпускнік Лінгвістычнага, зрабіў кар'еру ў МЗС. Сяргей Пелюшкевіч, які кіраваў прэс-службай прэзідэнта з лютага 2013 года, перайшоў на пасаду намесніка галоўнага рэдактара газеты «Советская Белоруссия».

**Найлепшы фільм у гісторыі кіно**

У апытанні чытачоў часопіса Empire паўдзельнічала 250 тысяч чалавек. Пальма першынства дасталася карціне «Зорныя вайны: Эпізод 5 — Імперыя наносіць зваротны ўдар», другое і трэцяе месцы заваявалі «Хросны бацька» і «Цёмны рыцар» адпаведна, чацвёртае месца ва «Уцёкаў з Шоўшэнка», пятае у «Крымінальнага чытва».

**ЯМ**

## Рэкамендуем

### Вена, Браціслава, іх музеі і мастакі

Падарожныя нататкі Аляксея Ластоўскага

### Самае чытанае на nn.by за 28 мая — 3 чэрвеня

1 Лукашэнка: Пасля Украіны ўся гэтая зараза палезе да нас

2 Цэнтр Мінска зноў затапіла: пад вадой 11 вуліц - фоты

3 Антытэрарыстычная аперацыя ў аэрапорце Данецка - відэа

4 Андрэй Герашчанка: «Беларусы — не рускія» — гэта антынацыянальны пасыл, а межы Расіі будуць пашырацца

5 Мама з малалетнім сынам выйшлі на Кастрычніцкую плошчу з плакатам «Смерць крамлёўскім акупантам» - фотафакт

6 Што будзе, калі пакасытаць пінгвіна - відэа

7 Дачка Бруса Уіліса пратэстуе супраць Instagram аголенымі грудзямі - фотафакт

8 Крым: ехаць ці не гэтым летам?

9 Лукашэнка: Людзі бегаюць «дай свініны»

10 Прэм'ер Мядзведзеў запосціў фотаздымак «дахі Мінска» — фота

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

## Падпіскі праз Рэдакцыю больш не будзе, падпісвайцеся праз пошту!

8 гадоў мы ажыццяўлялі падпіску праз Рэдакцыю. Мы завялі тую сістэму, калі нас выгналі з «Белпошты» і кіёскаў, і захоўвалі, нават калі нас вярнулі ў каталогі. На сёння нам выгадней стала працаваць праз «Белпошту». Каб эфектыўна выкарыстоўваць кожную капейку, мы спынем падпіску праз Рэдакцыю. Падпісацца зараз можна будзе толькі на пошце, на любой пошце.

Індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — **63125**) — **30 000** руб./месяц

Для прадпрыемстваў (індэкс — **631252**) — **36 000** руб./месяц

# Вяснінка побач з Драздамі:

## высокія чыноўнікі атрымалі зямлі на $10 мільёнаў




План забудовы. Светлыя катэджы – тыя, што ўжо існуюць, цёмныя — праектаваныя, некаторыя з іх ужо будуюцца.

«Наша Ніва» вяртаецца да тэмы выдзялення зямлі ў мінскім раёне Вяснінка. Гэта элітнае месца на беразе вадасховішча, за кіламетр ад пасёлка Дразды, дзе ў пачатку 2000-х пабудавалі сабе катэджы людзі, набліжаныя да Аляксандра Лукашэнкі — ад паплечніка Віктара Шэймана да асабістай доктаркі Ірыны Абельскай і мільянера Юрыя Чыжа. «Зона лаяльнасці» да кіраўніка дзяржавы год за годам пашыралася, аднак урэшце месца для забудовы ў Драздах скончылася.

Новае пакаленне наменклатурнай эліты магло б застацца без жыллёвага бонуса. Аднак цяпер кватэрнае пытанне міністраў вырашылася — ім дазволілі асвойваць Вяснінку.

### Палацы замест развалюх

Папярэдняя публікацыя пра «новыя Дразды» была надрукаваная ў «Нашай Ніве» №11 за 19 сакавіка 2014 года. Цяпер нам сталі вядомыя новыя падрабязнасці.

Нагадаем, што некалькі дзясяткаў хат вёскі Вяснінка былі ўключаныя ў склад Мінска 40 гадоў таму. За гэты час цана на зямлю істотна вырасла, і карэнныя жыхары пачалі прадаваць свае надзелы. Ад багацеяў, ахвотных пабудаваць сабе катэджы на месцы развалюх, яны атрымлівалі па $300—600 тысяч.

Рэвалюцыйныя змены прыйшлі ў жыццё вяснінцаў у пачатку 2013 года. На грамадскае абмеркаванне быў вынесены праект рэканструкцыі Вяснінкі. Асноўная яго сутнасць — з'яўленне каля 40 новых участкаў. Прычым некаторыя з іх мусілі паўстаць ля самага берага вадасховішча.

Нязгоду мясцовых жыхароў, у многіх з якіх для новага будаўніцтва забралі агароды, мінскія ўлады праігнаравалі. Затое пакінулі «інтрыгу»: каму дастануцца новыя ўчасткі?

### Толькі шматдзетныя

Па агульным правіле, вызначаным прэзідэнцкім указам №667 ад 27 снежня 2007 года «Аб канфіскацыі і перадачы зямельных участкаў», участкі пад будаўніцтва выдзяляюцца па выніках аўкцыёнаў. У Мінску выключэнне зроблена толькі для шматдзетных сем'яў, якім зямля можа выдавацца без таргоў. Што праўда, на аўкцыёны ў такой сітуацыі звычайна трапляе толькі «неліквід», ад якога адмовіліся шматдзетныя. Да адкрытых таргоў участкі ў Вяснінцы так і не дайшлі. Зрэшты, з носам засталіся і вялікія сем'і.

Зямлю між сабой падзяліла лукашэнкаўская эліта. Як такое магло здарыцца? Ніводзін з юрыстаў, да якіх звярталася «НН», не змог нават тэарэтычна абгрунтаваць такую схему раздачы ўчасткаў.

Больш за тое, выявілася, што на час правядзення грамадскіх слуханняў усе ўчасткі, апроч трох, ужо былі... раздадзеныя!

### Скурны інтарэс

Права на пажыццёвае валоданне зямлёй і перадачу яе ў спадчыну новыя жыхары Вяснінкі атрымлівалі праз рашэнні Мінгарвыканкама. Адно з першых было падпісана 10 лістапада 2011. Надзел быў выдзелены... старшыні Мінгарвыканкама **Мікалаю Ладуцьку**. 14 сотак элітнай зямлі ад арганізацыі, якую ўзначальваеш сам, — надзвычай выйгрышная схема.

Ці меў Ладуцька патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоваў? У ягонай афіцыйнай біяграфіі на сайце інфармацыйнага агенцтва БелТА не пазначаны сямейны статус. Паводле інфармацыі на інтэрнэт-форумах, кіраўнік Мінска мае адну дачку, прычым тая вучыцца за мяжой — ці то ў ЗША, ці то ў Вялікабрытаніі. Зрэшты, гэта толькі чуткі. Так ці інакш, але трохпакаёўкі плошчай амаль 100 м², у якой жыве Ладуцька, яму хапае за вочы.

Зрэшты, па падобнай схеме мінскі мэр засяляўся і ў цяперашнюю кватэру на вуліцы Чарвякова. Гэты дом узводзіла Упраўленне капітальнага будаўніцтва Мінгарвыканкама. А кіраўніком гэтай установы ў сярэдзіне 2000-х якраз і быў Мікалай Ладуцька.

Квартал на вуліцы Чарвякова, дзе пакуль што жыве мэр — унікальны для Мінска. Гэта бадай адзінае месца ў сталіцы, дзе выпадковы госць не можа зайсці ў двор. З усіх бакоў квартал абнесены высокім плотам, а месцы заезду аўтамабіляў на паркоўку замкнёныя на ключ.

А ў Вяснінцы мэр абраў сабе месца на першай берагавой лініі, за 100 метраў ад вадасховішча. Раней ягоны надзел быў агародам іншых жыхароў. Было вырашана праклаці сюды дарогу. Працінуць яе паміж хатамі не ўдалося, таму жыхароў аднаго дома давялося адсяліць, выплаціўшы ім кампенсацыю.

### Першая берагавая лінія

Тэрыторыю ля вады пачалі забудоўваць яшчэ ў 2007 годзе, калі дазвол на будаўніцтва атрымаў мільянер і сябар Аляксандра Лукашэнкі **Аляксандр Шакуцін**. З цягам часу збоку падсяліліся тэнісны трэнер і іншы сябар Лукашэнкі **Сяргей Цацэрын**, а таксама савецкі біятланіст **Сяргей Булыгін**. А ў пачатку 2011 участак атрымала тэнісістка **Вікторыя Азаранка**. Яе катэдж таксама ўжо дабудаваны, але гаспадыня з'яўляецца ў ім рэдка.

Як размеркавалі астатнія пяць самых прэстыжных участкаў ля вады?

...Некалі мы звярталі ўвагу, што Пятро Пракаповіч — адзіны чыноўнік з вышэйшай наменклатуры, хто здолеў атрымаць адразу два элітныя ўчасткі. Катэдж у Драздах віцэ-прэм'ер пакінуў сыну, а сам адхапіў яшчэ і дом за «Мінск-Арэнай», побач з паплечнікамі па Нацбанку і — магчыма — беглым кіргізскім прэзідэнтам Курманбекам Бакіевым (пацвярджэння мы не атрымалі). Але, як выявілася, тым жа шляхам пайшла і пераемніца Пракаповіча на пасадзе старшыні Нацбанка.

**Надзея Ермакова** неаднаразова заклікала да сціпласці. Як парада беларускім жанчынам насіць адныя туфлі стала легендарнай. Можа, менавіта ашчаджаючы па дробязях, Ермакова сабрала грошы на яшчэ адзін катэдж, цяпер у «новых Драздах»? Старую хату яна перапісала на дачку, а сама будуецца на беразе вадасховішча.

Яшчэ адзін фінансіст, былы віцэ-прэм'ер, а цяпер кіраўнік Банка развіцця, **Сяргей Румас**, доўгі час жыў з вялікай сям'ёй на ўскрайку Калодзішчаў, далёка ад іншых чыноўнікаў. У Вяснінцы ён будзе бліжэй да наменклатуры. Будаўніцтва ідзе актыўна, Новы год Румасы змогуць сустрэць у сталіцы.

Працяг на старонцы 4.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Вяснінка побач з Драздамі: чыноўнікі

Працяг са старонкі 3.

Кантраляваць банкіра зможа дзяржаўны сакратар саюзнай дзяржавы, грамадзянін Расіі **Грыгорый Рапота**, які больш за 30 гадоў свайго жыцця аддаў замежнай выведцы ў савецкім КГБ і расійскім ФСБ.

У генеральнага пракурора **Аляксандра Канюка** жыллёвае пытанне вырашылася надзвычай хутка. Чыноўнік нарадзіўся ў Гродне, але кар'еру рабіў у Мінску, амаль два дзесяцігоддзі працаваў вайсковым суддзёй. У 2012-м ён займеў кватэру ў навабудзе ва Уруччы, за некалькі крокаў ад праспекта Незалежнасці. А праз некалькі месяцаў атрымаў і зямлю пад будаўніцтва ў Вяснінцы.

У кампанію чыноўнікаў нейкім чынам трапіў і бізнэсмен **Іван Буракоўскі**. Алкагольны кароль пазалетась аб'яднаў свой аконны бізнэс з кампаніяй Юрыя Чыжа. Ягоны ўчастак адсутнічае на схеме, вынесенай на разгляд на грамадскія слуханні, аднак у рэальнасці існуе.





Вікторыя Азаранка яшчэ нядаўна была першай ракеткай свету. Яна стала жыве за мяжой.

Ягор Марціновіч

## Квартал сілавікоў

Наступная група катэджаў будзе пабудаваная на заходнім баку Вяснінкі, у наваствораным Сёмкаўскім завулку. Бліжэй да берага забраніравалі сабе месцы пад будаўніцтва «сілавы блок». Кампанія падабралася ўплывовая.

Разжалаваны за «плюшавы дэсант» былы галоўны памежнік краіны **Ігар Рачкоўскі** цяпер працуе першым віцэ-прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта. Ён — бацька пяцярых дзяцей! Таму Рачкоўскія маглі б будавацца і як шматдзетная сям'я. Як, дарэчы, і Румасы, у якіх чацвёра дзяцей. Што праўда, старэйшы іх сын ужо паўналетні.

**Раздача кватэр — пяць гадоў з канфіскацыяй**

Год таму былы «мэр» Гомеля Віктар Піліпец быў асуджаны на пяць гадоў пазбаўлення свабоды з канфіскацыяй маёмасці. Яго вінавацілі ў злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі. 24 жылыя памяшканні былі прададзеныя па цэнах істотна ніжэй за рынкавыя. Кватэры размяркоўваліся паміж сваякамі і знаёмымі фігурантаў справы.





Ягор Марціновіч

Сяргей Булыгін — намеснік старшыні біятлоннай федэрацыі. Ягоны кіраўнік — старшыня КДБ, Валерый Вакульчык — жыве непадалёк.



Однокласснікі.ru

Шматдзетная сям'я Сяргея Румаса.

Старшыня КДБ **Валерый Вакульчык** доўгі час жыў у панэльцы ў сталічным спальным раёне Сухарава. Вялікую трохпакаёўку ён пабудаваў праз кааператыў.

Побач атрымаў надзел міністр па надзвычайных сітуацыях **Уладзімір Вашчанка.** Ураджэнец Комі, у сталіцу Беларусі ён пераехаў з Магілёва, дзе доўгі час узначальваў абласное ўпраўленне МНС. Мяркуючы па ўсім, свайго жылля ў Мінску ён не меў, бо быў прапісаны... на тэрыторыі адной з пабудоў прэзідэнцкай рэзідэнцыі «Дразды».

Намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта **Валерый Міцкевіч** прыйшоў у ведамства з пасады дырэктара Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў. А да гэтага быў суддзёй і намеснікам міністра юстыцыі.

## Ад доктара да дэпутата

Праз дарогу ад іх, паводле плана забудовы, меркавалася набудаваць сем катэджаў, аднак адно з месцаў дагэтуль вольнае.

На астатніх надзелах збіраецца пасяліцца надзвычай разнастайная публіка. **Алег Румо** — адзін з самых вядомых беларускіх дактароў. Гэта ён першым у Беларусі выканаў аперацыю па перасадцы печані — хірургі працавалі 12 гадзін! У 2010 годзе Румо ўзначаліў створаны Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр трансплантацыі органаў і тканак. У свае 44 гады ён ужо абараніў доктарскую дысертацыю і атрымаў званне «Заслужанага доктара Беларусі».

Побач з ім знаходзіцца адзіны ўчастак, які быў набыты, а не выдадзены рашэннем Мінгарвыканкама. Загадкавы пакупнік, у сваю чаргу, аддаў надзел рынкавым коштам пад паўмільёна даляраў усяго за $8 тысяч. Цяпер ім валодае **Алівера Нядзелькавіч**, прадстаўніца сям'і **Карычаў** — самых багатых бізнэсменаў Сербіі часоў Слабадана Мілошавіча. Багацце Карычаў тады ацэньвалася ў $4 мільярды. Сям'я вядзе ў Беларусі некалькі буйных будаўнічых праектаў, напрыклад «Маяк Мінска». Адзін з братоў, Багалюб, за фінансавыя махінацыі быў аб'яўлены ў вышук, але атрымаў прытулак у Расіі. Іншы, Драгамір, лічыцца ганаровым консулам Беларусі ў Сербіі.



Алег Румо — адзін з самых таленавітых беларускіх дактароў.

Дом сербаў будзе дабудаваны ўжо хутка, як і катэдж міністра адукацыі **Сяргея Маскевіча**. Гродзенскі рэктар пераехаў у сталіцу ў сярэдзіне 2000-х, калі стаў дэпутатам. У палаце прадстаўнікоў Маскевіч быў адным з самых актыўных, узначаліў камісію па міжнародных справах, але пастаянна выказваўся і па пытаннях адукацыі. У Мінску міністр паспеў пабудаваць кааператыўную кватэру ў Сухараве, а цяпер замахнуўся і на свой дом.

Намеснік старшыні Дзяржкантролю **Леанід Анфімаў** будоўлі фактычна не пачынаў. Сваю кар'еру ураджэнец Уладзімірскай



Ягор Марціновіч

Будоўля Сяргея Маскевіча пачалася хутка, але цяпер запаволілася.

# атрымалі зямлі на $10 мільёнаў

вобласці Расіі перадусім рабіў у Мінгарвыканкаме, аднак паспеў папрацаваць і намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

Не будуецца пакуль і папярэднік Анфімава ў Дзяржкантролі **Аляксандр Агееў**. Знаходжанне чыноўніка ў «спісе на зямлю» выглядае дзіўным — іншыя ўчасткі перадусім раздалі службоўцам пры пасадах. А былы міністр энергетыкі быў на вышыні гадоў дзесяць таму. Цяпер Агееў — усяго толькі малазаўважны дэпутат ад Шклоўскага раёна.

Ураджэнец Луганскай вобласці, міністр унутраных спраў **Ігар Шуневіч**, атрымаў участак апошнім, літаральна некалькі месяцаў таму. За апошняе дзесяцігоддзе былога міліцэйскага следчага паспелі перакінуць у КДБ, дзе ён змагаўся з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю, а пасля зноў вярнуць у МУС.

### Падарожжа па Вербнай

Яшчэ адна вуліца, Вербная, таксама ствараецца з нуля (глядзі карту). На ёй паўстануць 24 новыя катэджы, пасярод якіх пакінуць некалькі старых хат. «Комплексную рэканструкцыю квартала» планавалася скончыць да сакавіка 2014 года, але будаўнікам яшчэ працаваць і працаваць. Пасля дажджу прабрацца па вяснінкаўскім бездарожжы можна хіба што на МАЗе. Але гэта хвалюе толькі мясцовых жыхароў, чые хаты не пайшлі пад знос.

Яны расказваюць, што ўлады спрабавалі «раскруціць» багатых навасёлаў на будаўніцтва дарогі і правядзенне камунікацый за свой кошт, але тыя нібыта праігнаравалі



Віцэ-прэм'ера Міхаіла Русага радуе не толькі хлеб, але і новае жыллё.

Беларускаму настаўніку з сярэднім заробкам давядзецца працаваць каля 150 гадоў, каб набыць па рынкавым кошце такі ўчастак, як у міністра адукацыі Сяргея Маскевіча. А тады яшчэ задоў 30 — і дом паставіць.

прапанову.

41-гадовы **Андрэй Швед** — самы малады сярод вяснінкаўскіх чыноўнікаў-навасёлаў. Вось ужо год ён ачольвае настворны Дзяржаўны камітэт судовых экспертыз. Як і многія суседзі, у элітны пасёлак Швед пераедзе з кааператыўнай кватэры, пабудаванай падчас будаўнічага буму канца 2000-х.

Менавіта Швед курыраваў расследаванне справаў аб забойстве журналіста Бябеніна і аб выбуху ў метро.

Другая пасля Надзеі Ермаковай жанчына-чыноўніца ў Вяснінцы — **Марыяна Шчоткіна.** Яе дзяцінства і маладосць прайшлі каля Мурманска, адкуль у сярэдзіне 1980-х Шчоткіна прыехала ў Мінск і стала настаўніцай фізікі. Катэджам цяперашні міністр працы і сацыяльнага забеспячэння здолее забяспечыць сваю сям'ю напоўніцу. Суседзі кажуць, што брыгада будаўнікоў стала працуе на яе ўжо некалькі месяцаў.

Пра кіраўніка «Белнафтахіма» **Ігара Жыліна** заўважылі іншае. Суседзі заўважылі, што, па дзіўным супадзенні, будаўнічыя матэрыялы да яго на ўчастак прывозяць пераважна ўначы. Жылін з'явіўся ў Беларусі ўсяго пяць гадоў таму. Расійскі менеджар да таго, як Лукашэнка паклікаў яго кіраваць «Гродна-Азотам», працаваў у Грузіі.

Побач паселіцца яшчэ адзін уплывовы бізнэс-кіраўнік. **Анатоль Гусараў** узначальвае «Белавія» ўжо 18 гадоў. Зрэшты, авіяцыі ўраджэнец Бранскай вобласці прысвяціў усё жыццё.

Ніводнай згадкі пра дзейнасць міністра фінансаў **Андрэя Харкаўца** няма ўжо амаль паўгода. Ён нават не трапіў у новы склад Рады бяспекі, куды чыноўнік на ягонай пасадзе мусіць уваходзіць па змоўчанні. Паводле чутак, Харкавец знаходзіцца на лячэнні за мяжой. Як і Гусараў, ён не любіць мяняць працу — у сістэме Міністэрства фінансаў Харкавец ужо працуе 29 гадоў.

Суседа ім падбіралі па тым жа прынцыпе. Кіраўнік Белстата **Уладзімір Зіноўскі** няспынна займаецца статыстыкай ужо 33 гады.





ЯГОР МАРЦІНОВІЧ

Міністр па надзвычайных сітуацыях Уладзімір Вашчанка пабудаваўся раней за астатніх.



ЯГОР МАРЦІНОВІЧ

Ашчадная Надзея Ермакова раіла жанчынам абмежавацца аднымі туфлямі, а цяпер атрымала самае дарагое месца — на беразе возера.



BIATLON.BY

Старшыня КДБ Валерый Вакульчык дорыць вінтоўку алімпійскай чэмпіёнцы Дар'і Домрачавай. Яе чакае месца ў будучых Драздах №3?

**Валерый Іваноў** зрабіў выдатную кар'еру — ад заатэхніка да віцэ-прэм'ера і, галоўнае, гендырэктара «Беларускай калійнай кампаніі». А пасля пакаціўся назад. Цяпер ён кіраўнік шматпакутнага «Белкаапсаюза». Дарэчы, у чыноўніка тры адукацыі, ён спецыяліст па сельскай гаспадарцы, паліталогіі і ў кіраванні. На вуліцы Вербнай у Вяснінцы Іваноў пабудаваўся хутчэй за ўсіх.

Для параўнання, **Андрэй Уцюрын** атрымаў зямлю ў той жа дзень, што і Іваноў, але вышэй за падмурак пакуль не падняўся. У ахове Лукашэнкі ён амаль ад пачатку прэзідэнцтва — з 1995 года. А апошнія сем гадоў узначальвае службу аховы.

Яшчэ адзін новы жыхар Вяснінкі — першы намеснік старшыні Вярхоўнага Суда **Аляксандр Федарцоў.** Гэты суддзя вядомы тым, што вынес расстрэльны вырак Дзмітрыю Канавалаву і Уладзіславу Кавалёву.

### «Могілкі дыназаўраў»

Пераходзім на адваротны бок вуліцы, дзе сабралася мноства адстаўнікоў.

**Аляксандр Бароўскі** апошні раз узгадваўся як кандыдат на старшынства ў назіральнай радзе холдынга «БелРосАўта». Былы кіраўнік «Белнафтахіма» ў свой час лічыўся адным з галоўных кандыдатаў на пасаду прэм'ер-міністра. Але апынуўся на лаве падсудных. Бароўскага пасадзілі на пяць гадоў, але выпусцілі праз паўгода. Лукашэнка прызначыў яго дырэктарам МАЗа, дзе яго праца была паспяховай.

**Міхаіл Матусевіч** паспеў пабыць віцэ-спікерам савета рэспублікі і старшынёй Мінскага гарадскога савета дэпутатаў.

З высокімі пасадамі развіталіся і двое калісьці ўплывовых сілавікоў. Ураджэнец Азербайджана, былы міністр унутраных спраў **Анатоль Куляшоў** (пад ягоным «кіраваннем» была разагнаная Плошча-2010) захварэў на рак, а пасля курса тэрапіі ўладкаваўся дарадцам у выканкам СНД.

А вось кар'ерны памежнік, старшыня КДБ **Вадзім Зайцаў** пайшоў працаваць генеральным

У чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоваў стаяць больш за 24 тысячы шматдзетных сем'яў. Агулам у чарзе — 773 тысяч сем'яў і грамадзян.

дырэктарам у апаратара кабельнага тэлебачання «Космас-ТБ». Ён, дарэчы, нарадзіўся ва Украіне. Суседзі-адстаўнікі атрымалі зямлю яшчэ падчас знаходжання пры ўладзе.

**Уладзімір Андрэйчанка** ўсё яшчэ на высокай пасадзе, хоць і дэкаратыўнай. Апошнія шэсць гадоў ён ачольвае палату прадстаўнікоў, а да таго амаль 15 гадоў кіраваў Віцебскай вобласцю. Андрэйчанка і цяпер жыве ў Драздах, але не ў катэджы, а ў кватэры ў элітным пяціпавярхоўцы.

Доктар тэхнічных навук **Анатоль Русецкі** спецыялізуецца на электронным машынабудаванні. Пасля адстаўкі з пасады кіраўніка Акадэміі навук застаўся ў савеце рэспублікі, тут ён намеснік старшыні.

# Вяснінка побач з Драздамі: чыноўнікі

Працяг на старонцы 6.
Працяг са старонкі 5.

Кампанію адстаўнікоў разбаўляюць старшыня Камітэта дзяржкантролю **Аляксандр Якабсон** (яшчэ за савецкім часам ён узначальваў Светлагорск, а ў 2000-х — Гомельскую вобласць) і віцэ-прэм'ер **Міхаіл Русы**. Ён паспеў пабыць міністрам прыродных рэсурсаў, двойчы — міністрам сельскай гаспадаркі і дэпутатам.

### Не чыноўнікі

Асаблівасцю забудовы Драздоў быў той факт, што ніводзін прадстаўнік творчай інтэлігенцыі зямлі так і не атрымаў. У Вяснінцы ж пару ўчасткаў для людзей культуры ўсё ж пакінулі.

Сярод мастакоў уганараванымі аказаліся **Віктар Альшэўскі** і **Уладзімір Зінкевіч**. Разам з Віктарам Савічам яны сталі лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі за серыю гістарычных партрэтаў для Гомельскага палацава-паркавага комплекса. Зінкевіч, сярод іншага, вядомы і тым, што прадмову да ягонага альбома напісаў «збройны барон» Уладзімір Пефціеў.

Зямлю займеў і спявак **Анатоль Ярмоленка**. Да стварэння дома ён падышоў з размахам. Ужо цяпер пабудова нагадвае старажытны амфітэатр.

Яшчэ некалькі гадоў таму да людзей культуры можна было б аднесці былога артыста і дырэктара Купалаўскага тэатра **Генадзя Давыдзьку**. Аднак, стаўшы кіраўніком Белтэлерадыёкампаніі, ён адышоў ад культуры і заняўся зацятай прапагандай. «Глыбока перакананы, што інтэлігентнасць і ўлада — рэчы несумяшчальныя», — заяўляў у свой час Давыдзька. Але калі высокая пасада паклікала...

Тэлевізійным прапагандыстам улады заўсёды рады. У Драздах на адным участку дазволілі пабудаваць два катэджы цяперашняму кіраўніку АНТ Рыгору Кісялю, а ў Вяснінцы паселіцца адыёзны вядучы **Юрый Казіятка**. Цяпер ён узначальвае Сталічнае тэлебачанне.

Апроч Вікторыі Азаранкі, у Вяснінцы паселяцца яшчэ двое спартсменаў. Фрыстайліста **Аляксея Грышына** аддзячылі за перамогу на зімовай Алімпіядзе-2010 у Ванкуверы. А ягоны калега па зборнай **Антон Кушнір** атрымаў зямлю авансам, яшчэ да перамогі ў Сочы-2014.


Дарогі яшчэ няма, але будоўля ідзе няспынна.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН




Такія тыповыя катэджы прапаноўвалі будаваць чыноўнікам, але яны вырашылі быць арыгінальнымі і замовілі новыя праекты.

Адметна, што літаральна за месяц да атрымання ён скардзіўся у інтэрв'ю, што ледзь выжывае ад зарплаты да зарплаты. Затое цяпе мае зямлю коштам паўмільёна!

### Ненарматыўны акт

Рашэнні, праз якія раздаваліся ўчасткі, засталіся па-за ўвагай грамадскасці. Яны адносяцца да ненарматыўных актаў, таму не праходзяць экспертызы ў Міністэрстве юстыцыі і не трапляюць у агульнадаступны Нацыянальны рэестр прававых актаў. Напрыклад, кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька атрымаў зямлю ў Вяснінцы рашэннем Мінгарвыканкама №3855/1 ад 22 снежня 2011 года.

Дзе можна азнаёміцца з гэтым дакументам? Паказаць яго «Нашай Ніве» копію дакументаў у Мінгарвыканкаме адмовіліся. «У сувязі з тым, што запытаныя рашэнні не змяшчаюць інфармацыі, якая датычыцца непасрэдна вас, задаволіць ваш запыт не можам», — адказаў кіраўнік спраў Мінгарвыканкама Мікалай Котаў.

Як тлумачаць юрысты, пры патрэбе сталічныя ўлады накіруюць гэты дакумент у суд альбо магчымым «зацікаўленым асобам» — напрыклад суседзям, якія мяркуюць, што Давыдзька незаконна забраў у іх частку агарода.

### Закрытая цана

Менавіта ў гэтых таямнічых рашэннях прапісваюцца падставы для выдзялення надзелаў. Можа, чыноўнікі выкупілі зямлю па кадастравай цане? Альбо за сімвалічную адну базавую велічыню? Альбо ўвогуле задарма? Інфармацыя закрытая ад грамадства.


Андрэй Уцюрын — цень Аляксандра Лукашэнкі.

Звернемся да досведу папярэднікаў. Калі ў сярэдзіне 2000-х забудоўваліся Драздзы, прапанову аб будаўніцтве атрымаў акадэмік Аляксандр Вайтовіч, на той момант старшыня савета рэспублікі. На выбар былі прапанаваныя два тыповыя праекты катэджаў, узгадвае ён. Аднак Вайтовіч адмовіўся: «Зразумеў, што з маім заробкам будаўніцтва не пацягну». Ці трэба было плаціць за зямлю? На жаль, Вайтовіч дакладна не памятае. Але кажа, што вырашыў адмовіцца толькі калі даведаўся пра кошт самога будаўніцтва.

Цікава, што прапановы аб будаўніцтве тады рабіла Кіраўніцтва справаў прэзідэнта.

### За чые грошы?

Катэджы ў Драздах чыноўнікам цэнтралізавана будаваў «Трэст Прамбуд». Ахвотныя маглі ўзяць крэдыты на аплату працаў. Напрыклад, тагачасны віцэ-прэм'ер, а цяперашні кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Андрэй Кабякоў узяў валютны крэдыт на $120 тысяч пад заклад дома.

# атрымалі зямлі на $10 мільёнаў

Дадзеныя, прыведзеныя ў расследаванні, атрыманыя з адкрытых крыніц. «Наша Ніва» ніколі не карысталася нічыімі інфармацыйнымі «злівамі» і не ўдзельнічае ў «войнах кампраматаў».

А вось новаму пакаленню лукашэнкаўскай эліты даводзіцца самім наймаць будаўнікоў. За якія грошы, калі ўзвядзенне нават сучаснага драўлянага дома пад ключ каштуе ад $80 тысяч, але ў рэальнасці значна больш?

Паводле заканадаўства, льготныя крэдыты на будаўніцтва пакінутыя толькі для некаторых катэгорый грамадзянаў. Гэта шматдзетныя сем'і, жыхары інтэрнатаў, маладыя сем'і, адораная моладзь... — і тое пры ўмове іхняй малазабяспечанасці.

Асобная магчымасць пакінутая для сілавікоў, прычым фактычна для любых, ад КДБ да пракуратуры. Яны могуць будавацца пад 5% гадавых. Некаторыя з вяснінкаўскіх навасёлаў маглі праскочыць у гэтую заканадаўчую шчыліну. Але хапае тут і цывільных чыноўнікаў.

Па словах жыхароў Вяснінкі, льготныя крэдыты выдзяляюць усім ахвотным элітным землеўласнікам. Пацвярджэння гэтай інфармацыі пакуль няма. Дакладнасць з'явіцца, калі хаця б першыя з чыноўнікаў дабудуюць катэджы і афіцыйна ўвядуць іх у эксплуатацыю. Тады дадзеныя пра іхнія крэдытныя дамовы з банкамі трапяць у дзяржаўны рэгістр нерухомасці.

## Ці забярэ Ладуцька зямлю ў Ладуцкі?

Вялікая колькасць участкаў, выдзеленых чыноўнікам, дагэтуль стаіць пустая — ва ўласнікаў не даходзяць рукі да будоўлі. Паводле прэзідэнцкага ўказа №520 ад 11 лістапада 2011 года, на тое, каб дабудаваць дом, гаспадарам даецца тры гады. Адлік вядзецца з 1 сакавіка 2012 года. Іншымі словамі, Мікалай Ладуцька, чый участак на дадзены момант стаіць цалкам пустым, мусіць дабудавацца да 1 сакавіка 2015 года. Да гэтага дня патрэбна, каб у дома былі падмурак, сцены і дах.

### Міма касы

Сярод вышэйшай наменклатуры засталося няшмат уплывовых чыноўнікаў, якія не засвяціліся сярод уласнікаў зямлі ні ў Драздах, ні ў Вяснінцы. Кагосьці наша расследаванне проста не выявіла. А магчыма, нехта падчас «раздачы» працаваў на нізкай пасадзе ці быў занадта маладым для такога. А нехта, можа, і адмовіўся, бо палічыў несумленным атрымліваць такі гонар. Так, мы не зафіксавалі міністра абароны Юрыя Жадобіна, старшыню Канстытуцыйнага суда Пятра Міклашэвіча, старшыню савета рэспублікі Анатоля Рубінава, міністра юстыцыі Алега Сліжэўскага.

Няма пакуль участкаў у старшыні Следчага камітэта Валянціна Шаева, старшыні Мінскага аблвыканкама Сямёна Шапіры, кіраўніка Аператыўна-аналітычнага цэнтра Сяргея Шпегуна. Але гэта пакуль тлумачыцца не іх грамадзянскай сумленнасцю, а тым, што яны толькі нядаўна атрымалі свае пасады.

Прапагандысты Юрый Казіятка (ягоны дом на фота) і Генадзь Давыдзька будуць суседзямі.



ЯГОР МАРЦІНОВІЧ





ЯГОР МАРЦІНОВІЧ



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Самы арыгінальны праект — у Анатоля Ярмоленкі. У двары будзе мініамфітэатр.

Аднак заканадаўства прадугледжвае шэраг адтэрміновак. Напрыклад, калі Ладуцька не паспее да вызначага тэрміну, ён зможа звярнуцца да мясцовых уладаў (чытай — да сябе) з просьбай даць яму на будоўлю яшчэ два гады, спасылаўшыся на цяжкі матэрыяльны стан, хваробу, адсутнасць у краіне ці іншую ўважлівую прычыну. Калі зноў не атрымаецца, то можна будзе законсерваваць будоўлю яшчэ на тры гады. І толькі пасля заканчэння гэтага тэрміну ў нядбайнага гаспадара канфіскуюць зямлю і перададуць яе камусьці іншаму.

## Нетыповыя праекты

На стэндах, выстаўленых падчас грамадскага абмеркавання забудовы Вяснінкі, былі намаляваныя два віды тыпавых катэджаў. Меркавалася, што новыя гаспадары абяруць адзін з гэтых варыянтаў. Аднак ужо цяпер бачна, што катэджы чыноўнікаў зусім не падобныя да прапаноў архітэктараў. Ці ёсць у гэтым парушэнне? Як тлумачаць юрысты, калі праект прайшоў зацвярджэнне, ніхто не будзе патрабаваць, каб гаспадары вярталіся да першаснай прапановы.

## Цана пытання

У пачатку 2009 года на адкрыты аўкцыён выстаўляліся некалькі свабодных участкаў, па 7—8 сотак у Драздах. Іх стартавая цана дасягала $130 тысяч. У Мінскім гарадскім цэнтры нерухомасці «Нашай Ніве» адмовіліся паведаміць, за колькі ў выніку былі прададзеныя надзелы, спасылаўшыся на «камерцыйную таямніцу».

З таго часу кадастравая цана зямлі вырасла, і, паводле ацэнкі на канец 2012 года, квадратны метр зямлі ў Вяснінцы цяпер каштуе $191. Чыноўнікі атрымалі вялікія надзелы, па 12—15 сотак. Фактычна кожнаму — як мінімум па $230—290 тысяч. Пры пераліку на ўсю Вяснінку — каля 10 мільёнаў. Рэальная цана зямлі нашмат большая, суседнія ўчасткі з хатамі пад знос прадаюцца па $600—700 тысяч.

Гатовыя катэджы ў Вяснінцы на продаж не выстаўленыя, але іх рынкавая цана перавышае $1 мільён. Але колькі каштуе лаяльнасць чыноўнікаў і разуменне, што яны адчуваюць сябе ў фінансавым неаплачаным абавязку? Неацэнна.

**Ягор Марціновіч**

### Жыхары Драздоў

У Драздах у свой час атрымалі жыллё больш за 50 чыноўнікаў. Некаторыя з іх з цягам часу перапісалі катэджы на жонак ці дзяцей.

**Абельская Ірына** — кіраўніца Рэспубліканскага клінічнага медыцынскага цэнтра
**Бамбіза Іван** — у свой час віцэ-прэм'ер
**Бардзюжа Мікалай** — генеральны сакратар Арганізацыі Дамовы аб калектыўнай бяспецы, расіянін
**Батура Барыс** — у свой час старшыня Мінаблвыканкама
**Васілевіч Рыгор** — у свой час генеральны пракурор
**Галаванаў Віктар** — у свой час міністр юстыцыі
**Дражын Уладзімір** — у свой час віцэ-прэм'ер
**Ермакова Надзея** — старшыня Нацбанка
**Ерын Леанід** — у свой час старшыня КДБ, пасля працаваў у Расіі
**Захараў Міхаіл** — хакейны трэнер
**Іванчанка Мікалай** — у свой час намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта
**Кабякоў Андрэй** — кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта
**Калінін Анатоль** — віцэ-прэм'ер
**Камянкоў Віктар** — у свой час старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда
**Канаплёў Уладзімір** — у свой час старшыня палаты прадстаўнікоў
**Кісель Рыгор** — кіраўнік АНТ
**Корбут Мікалай Мікалаевіч** — у свой час кіраўнік справаў прэзідэнта
**Косінец Аляксандр** — старшыня Віцебскага аблвыканкама
**Курачкін Генадзь** — у свой час міністр архітэктуры і будаўніцтва
**Латыпаў Урал** — у свой час кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта, расіянін, пасля працаваў у Расіі
**Макей Уладзімір** — міністр замежных спраў
**Мальцаў Леанід** — старшыня памежнага камітэта
**Мартынаў Сяргей** — у свой час міністр замежных спраў
**Мясніковіч Міхаіл** — прэм'ер-міністр
**Навіцкі Генадзь** — у свой час прэм'ер-міністр
**Навумаў Уладзімір** — у свой час міністр унутраных спраў, расіянін, пасля працаваў у Расіі
**Нявыглас Генадзь** — у свой час кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта
**Папкоў Аляксандр** — у свой час віцэ-прэм'ер
**Папоў Вадзім** — у свой час старшыня палаты прадстаўнікоў
**Паўлаў Міхаіл** (памёр) — у свой час старшыня Мінгарвыканкама
**Паўлоўскі Аляксандр** — у свой час старшыня памежнага камітэта
**Поўны Фёдар** — святар
**Пракаповіч Пятро** — віцэ-прэм'ер
**Праляскоўскі Алег** — міністр інфармацыі
**Пяткевіч Наталля** — памочніца прэзідэнта
**Радзькоў Аляксандр**– першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.
**Рыбакоў Валянцін** — намеснік міністра замежных спраў, у свой час памочнік Аляксандра Лукашэнкі
**Селязнёў Аляксандр** — у свой час міністр архітэктуры і будаўніцтва
**Сідорскі Сяргей** — у свой час прэм'ер-міністр
**Сукала Валянцін** — старшыня Вярхоўнага суда
**Сухарэнка Сцяпан** — у свой час старшыня КДБ
**Сямашка Уладзімір** — першы віцэ-прэм'ер
**Тапузідзіс Павел** — бізнэсмен
**Таўпянец Эдуард** — у свой час першы намеснік міністра энергетыкі
**Ткачоў Сяргей** — у свой час памочнік прэзідэнта
**Тозік Анатоль** — віцэ-прэм'ер
**Цалко Уладзімір** — міністр прыродных рэсурсаў
**Чыж Юрый** — бізнэсмен
**Шаўцоў Віктар** — бізнэсмен
**Шпілеўскі Аляксандр** — старшыня мытнага камітэта
**Шэйман Віктар** — кіраўнік справаў прэзідэнта
**Ярмошына Лідзія** — старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі.

# Лябедзька ідзе ў прэзідэнты

Палітык пераабраўся кіраўніком Аб’яднанай грамадзянскай партыі.



На з’ездзе Аб’яднанай грамадзянскай партыі, які адбыўся ў Мінску 31 мая, вызначаўся не толькі старшыня арганізацыі, але і чалавек, які прадставіць АГП на наступных прэзідэнцкіх выбарах.

Спіс для галасавання быў вельмі шырокім, у яго ўвайшло аж 33 прозвішчы. Найбольшую колькасць галасоў набралі Анатоль Лябедзька, былы дэпутат Вярхоўнага Савета Аляксандр Дабравольскі, а таксама гамяльчук Васіль Палякоў.

Урэшце было вырашана, што ў працэдуры вызначэння адзінага кандыдата ад АГП будзе ўдзельнічаць Анатоль Лябедзька.

Нагадаем, што на выбарах-2010 АГП рэпрэзентаваў эканаміст Яраслаў Раманчук. У 2005 годзе Анатоль Лябедзька прайграў галасаванне аб вызначэнні адзінага ад апазіцыі Аляксандру Мілінкевічу.

Лябедзька — гэта другі апазіцыйны палітык, які выказаў жаданне ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах-2015. Раней аб такой магчымасці заяўляў лідар «Гавары праўду», паэт Уладзімір Някляеў. Шмат размоваў адносна ўдзелу ў выбарах Вольгі Карач з Віцебска, аднак сама яна пакуль не пацвярджае іх.

**Зміцер Панкавец**

**Анатоль Лябедзька**

Нарадзіўся ў 1961 годзе ў вёсцы Трылес Стаўпецкага раёна. Скончыў факультэт гісторыі і французскай мовы Мінскага педінстытуту, у 1993 — юрыдычны факультэт БДУ. Дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў. Ад 2000 года — старшыня АГП. За Плошчу 2010 года быў кінуты ў «Амерыканку», але ў красавіку адпушчаны. Прашэнне на імя Лукашэнкі не падпісаў. Неадназарова за сваю дзейнасць адбываў пакаранні на Акрэсціна. Жанаты, мае сына.



**Фотафакт**




**«Смерць крамлёўскім акупантам!»**

У знак пратэсту супраць падпісання ў Астане дамовы аб стварэнні Еўразійскага эканамічнага саюза актывісты Вольга Бурневіч, Вольга Жураўлёва і Сяргей Качура 29 мая выйшлі на Кастрычніцкую плошчу Мінска з плакатам «Смерць крамлёўскім акупантам!». Праз некалькі хвілін прыехаў аўтобус з АМАПам. Актывісты былі затрыманыя і дастаўлены ў Цэнтральнае РУУС. Бурневіч і Качуру адпусцілі без складання пратаколаў. А Жураўлёву назаўтра пакаралі штрафам у пяць базавых велічыняў (750 тысяч рублёў).

## Часопіс «Планета» ад імя Беларусі прызнаў анексію Крыма?




Праўладнае выданне надрукавала мапу Украіны **без паўвострава**.

Намесніца галоўнага рэдактара Таццяна Мураўёва назвала гэта... выпадковасцю: «Мы не пераследавалі пры стварэнні вокладкі палітычных пытанняў... Але вы ж разумееце, калі б мы выбралі іншы варыянт мапы — да нас былі б пытанні, чаму мы выбралі яго. Артыкул прысвечаны кантынентальнай частцы Украіны і не тычыцца пытанняў Крыма».

На заўвагу наконт магчымасці дыпламатычнага скандалу паміж Кіевам і Мінскам, які пакуль не прызнаў анексіі Крыма РФ, спадарыня Мураўёва адзначыла, што ў рэдакцыі будзе абмеркаваны гэты момант, каб у будучым быць больш пільнымі.

«Планета» звычайна расказвае пра падзеі ў свеце ў антыамерыканскім і антызаходнім рэчышчы, не ва ўсіх артыкулах пазначаюцца аўтары. Пад артыкулам «Кланы Украіны» ў апошнім нумары аўтарства таксама не ўказанае.

**Алесь Кіркевіч**



Фотафакт

# У гасцях у цешчы

Карэспандэнты Tut.by пагутарылі з цешчай Лукашэнкі, Аленай Фёдараўнай Жаўняровіч. Той самай, якую кіраўнік краіны ў інтэрв'ю з Ксеніяй Сабчак назваў «сябрам чалавека».

А любімы зяць да яе заязджае, прычым не адзін.

На здымку з яе архіва злева направа: тэнісны трэнер **Сяргей Цяцерын**, старэйшы сын кіраўніка дзяржавы **Віктар Лукашэнка**, дзяўчына, падобная да спявачкі **Алены Ланской**, сам **Аляксандр Лукашэнка**, тэлевядучая **Паліна Шуба**, бізнэсмен **Аляксандр Шакуцін**. На пярэднім плане — цешча **Алена Фёдараўна** і асабістая доктарка Лукашэнкі **Святлана Канашэнка**.

Настаўнікі, вучні і бацькі заступіліся за дырэктарку гімназіі.

# Усе за аднаго

У мінскай гімназіі №17 адбываецца гісторыя нечуванай салідарнасці. Пасля звальнення дырэктаркі Рамуальды Машук гатоўнасць сысці разам з ёй выказалі амаль усе настаўнікі. Яны ўпэўненыя, што педагог пакінула пасаду не добраахвотна.

Рамуальда Машук стала дырэктаркай гімназіі №17 пяць гадоў таму. 31 мая камітэт па адукацыі Мінгарвыканкама падпісаў заяву аб яе сыходзе з пасады. Калектыў гімназіі адрэагаваў некалькімі дзясяткамі заяваў аб звальненні ў знак салідарнасці з Машук.

У гімназіі ўпэўненыя, што супрацоўнікі адміністрацыі Ленінскага раёна прымушалі дырэктарку звольніцца. Кажуць, вінаваты канфлікт — Машук паскардзілася на незапланаваную праверку падчас летніх іспытаў у мінулым годзе. З таго часу нібыта і пачалося «цкаванне» кіраўніка.

Але акалічнасці супрацьстаяння невядомыя. Калегі тлумачаць, што Машук не выносіла прыватныя справы на абмеркаванне ў калектыве. Нават калі хадзілі чуткі пра яе магчымае звальненне.

### Чакаюць на працы

У самой гімназіі пануе няпэўнасць. Датэлефанавацца да Рамуальды Машук не атрымліваецца. Сітуацыю тлумачыць намесніца дырэктара Марына Постнікава: Машук больш не дырэктарка, яе абавязкі выконвае намеснік па выхаваўчай рабоце Сяргей Жукоўскі.

Постнікава кажа, што калектыў не губляе надзеі на вяртанне Машук на пасаду: «Мы спадзяёмся, што яна вернецца. 31 мая ў нас быў сход, сустрэча з прадстаўнікамі адміністрацыі Ленінскага раёна. Прысутнічалі амаль усе педагогі. Тады нам і абвесцілі, што заяву Машук афіцыйна падпісалі. Чыноўнікі таксама пачулі меркаванне калектыву. Нам сказалі, што проста аднавіць на працу Рамуальду Машук нельга. Цяпер ёй даводзецца зноў праходзіць усю працэдуру вылучэння на пасаду, ад пачатку і да канца... Вярнуць дырэктарку не абяцалі. Мо пра гэта ўвогуле ўзгадалі, каб супакоіць калектыў. Але такая магчымасць існуе.

Я не разумею гэтай сітуацыі. Дапусцім, яна напісала заяву. Але які начальнік звольніць дырэктара школы няпярэдадні экзаменаў? Хто ім выкручваў рукі падпісаць заяву на звальненне ў дзень яе падачы? Маглі папрасіць дапрацаваць да канца кантракта. Відаць, хтосьці моцна жадаў яе сыходу».

Чыноўнікі каментароў наконт сітуацыі ў гімназіі не даюць. Адказная за адукацыю намесніца старшыні адміністрацыі Ленінскага раёна Галіна Школа параіла звярнуцца ў камітэт па адукацыі Мінгарвыканкама. А намесніца старшыні камітэта Марыя Кіндзірэнка праз сваіх падначаленых параіла звяртацца з усімі пытаннямі ў... адміністрацыю Ленінскага раёна.

### Звальненні не прыняла

Тры дзясяткі заяў аб звальненні ў знак салідарнасці так і не былі падпісаныя.

«Пакуль мы ўсе спадзяёмся, што Рамуальда Раманаўна да нас вернецца. — кажа Постнікава. — Звальненні, мабыць, пойдуць пазней, калі мы зразумеем, што ў нас не будзе дырэктара». «Гэтага дырэктара», — дадае яна.

Падчас сустрэчы з настаўнікамі чыноўнікі Ленінскай райадміністрацыі хацелі пабачаць, хто выказаў падтрымку дырэктарцы. Але, па словах калег, Машук катэгарычна адмовілася гэта рабіць, каб абараніць калег ад магчымых рэпрэсій. Яна прадэманстравала стос заяваў, прыкрыўшы імёны.

«Чыноўнікі хацелі пагутарыць з кожным настаўнікам асобна, але педагогі выступілі супраць. Сказалі, маўляў, ці гаварыце адразу з усімі, ці не гаварыце ні з кім», — кажа Постнікава.

### «Усе проста ў шоку»

Вучні гімназіі №17, апытаныя «НН», таксама аднагалосна падтрымліваюць былую дырэктарку. У сацсетках яны перапошваюць фота гімназіі з надпісам «Адзін за ўсіх, усе за аднаго» і не разумеюць, чаму Машук сышла.

**Дар'я:** «Я вучуся ў гэтай гімназіі з першага класа. Калі я сюды прыйшла, стан школы быў жудасны. Стары, пабіты будынак без нармальнага стадыёна і актавай залы. Пасля актавая зала год была на рамонце! Кашмар і жах. Я думала, што ўсе школы ў паўразбураным стане... Але як толькі ў школу прыйшла Рамуальда Раманаўна Машук, усё змянілася.

За тры месяцы ў нас зрабілі цудоўную актавую залу, найлепшы ў Мінску стадыён, сталовую па апошняй модзе! Я ніколі не думала, што ў школе можа быць так прыгожа!



Да свайго прыходу ў гімназію №17 Рамуальда Машук працавала ў беларускамоўнай гімназіі №28 у Серабранцы.

**Паліна:** «Рамуальда Раманаўна — цудоўны дырэктар. Яна паставіла ў кожны клас камп'ютары, у класе інфарматыкі павесілі інтэрактыўную дошку. Пасля яе звальнення ўсе проста ў шоку!»

**Лера:** «Наша Рамуальда Раманаўна хоць і строгая, але добрая! Дзякуючы ёй, нашы музычныя класы сталі выступаць па свеце. Нядаўна хор з нашай гімназіі ездзіў на выступ у Парыж».

**Кірыл:** «Настаўнікі, вучні і іх бацькі на баку Рамуальды Раманаўны, бо гэты чалавек добрасумленна ставіўся да сваёй працы.

Кірыла Хілько

# Памёр хлопчык-«матылёк»

Пеця Надточы пакутаваў ад рэдкага захворвання.

6-гадовы хлопчык памёр 31 мая. Некалькі апошніх месяцаў ён правёў у бальніцы. Як паведамілі ў дабрачынным фондзе «Шанс», у Пеці адкрыўся ўнутраны крывацёк, што і стала прычынай смерці.

Ахвраванні на лячэнне Пецю Надточаму з Вілейкі збіралі ўсёй краінай. У яго было рэдкае генетычнае захворванне — булёзны эпідэрмаліз у цяжкай форме. Звычайна знешні слой скуры ў чалавека злучаецца з больш глыбокімі слаямі. Праз генетычныя парушэнні ў хворых эпідэрміс не «трымаецца» за іншыя слаі. У выніку ў Пеці ад найраджэння былі пухіры на скуры і слізістых. Утварацца яны маглі самі па сабе альбо нават ад нязначнага дакранання да хлопчыка. І скура адслойвалася. Дзяцей з такім захворваннем называюць матылькамі: скура ў іх такая ж крохкая, як і крылы гэтых насякомых.

Для Пеці гэта былі вялікія пакуты. Ён не мог гуляць з дзецьмі: пухіры лопаліся і пакідалі раны, якія не загойваліся. І яго даводзілася пастаянна перавязваць спецыяльным матэрыяламі. У яго былі пашкоджаны і ўнутраныя органы. Ён не мог нават хадзіць — не выпростваліся ножкі. А на руцэ пачалі зрастацца пальчыкі...

Мама Пеці спрабавала спраўляцца з горам разам з бабуляй — бацька хлопчыка не жыў з сям'ёй. Дапамагалі сябры. Але гэтага было недастаткова. І яна звярнулася да людзей. У Беларусі, як і ў суседніх краінах, гэтае захворванне не даследаванае. У спецыялізаванай клініцы ў нямецкім Фрайбургу дзецьмі-«матылькамі» займаюцца шмат гадоў. Туды вазілі і Пецю, назбіраўшы грошы на абследаванне ўжо за два тыдні. Але патрабавалася далейшае лячэнне. І ў Беларусі працягвалі збіраць грошы да апошняга.

Сяргей Макарэвіч

# Два веласіпедысты сутыкнуліся на веладарожцы, дзяўчына загінула

**23-гадовая Наталля падымалася на горку, а 41-гадовы мужчына спускаўся.**

Яго родныя кажуць, што ён літаральна на секунду павярнуў галаву, каб пабачыць, ці паспяваюць за ім яго родныя. Асвятлення на веладарожцы тут няма. Не было і ліхтарыкаў на роварах. Дзяўчына каталася адна.

Каля «Мінск-Арэны», ля Крупецкай царквы, ёсць маляўнічыя ўзгоркі. Веладарожка кружляе па іх. Адчуванне пры яздзе фантастычнае, асабліва дзецям падабаецца. Аднак ровары разганяюцца да вялікіх хуткасцяў.

«Я адшукала сям'ю мужчыны, які збіў Наташу, і паразмаўляла з яго дачкой, — расказала сяброўка нябожчыцы Вольга «Нашай Ніве». — Сям'я тлумачыць, што бацька літаральна на секунду павярнуў галаву, каб паглядзець, ці едуць родныя за ім. Ад сутыкнення Наташа павалілася, стукнулася галавой аб асфальт».

Усё гэта здарылася а 23.30 24 мая, было ўжо поначы.

Наташа спачатку была ў прытомнасці. «Хуткая» забрала яе ў бальніцу, і, наракаюць сябры, дзяжурны доктар, магчыма, паставіўся да сітуацыі не зусім сур'ёзна. Тамаграфію, у прыватнасці, зрабілі не адразу. Але ўначы Наташы горшала і горшала.

«Як паказаў здымак, ад удару асколкі чэрапа трапілі ў мозг. Таму шанцаў не было. Наташа ўпала ў кому, з якой не выйшла», — расказвае яе сяброўка.

Цяпер следчыя ацэньваюць дзеянні дактароў.

«Яна была хатнім, спакойным дзіцём, моцна любіла бацькоў, — расказвае яе сяброўка. — Грала на фартэпіяна. У яе засталіся бацькі і старэйшы брат».

Наталля скончыла Эканамічны ўніверсітэт, пасля чаго ўладкавалася на працу ў Мінфін.

«Праводзіцца праверка абставінаў здарэння з удзелам двух раварыстаў, — паведаміў прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінску Аляксандр Герасімаў. — Няма прамых відавочцаў здарэння, цяпер іх шукаюць».

Герасімаў адзначыў, што мінчук, 1973 года нараджэння, не з'ехаў з месца здарэння, насуперак таму што пішуць у сацыяльных сетках знаёмыя загінулай. Ён аказаў дапамогу дзяўчыне і сам выклікаў «хуткую».

«У дзяўчыны не было бачных пашкоджанняў. Таму медыкі яе шпіталізавалі ўсяго толькі з падазрэннем на ЧМТ. Памерла дзяўчына 25 мая», — расказаў Герасімаў.

**Сяргей Макарэвіч**



# Сілавікі праслухоўвалі тэлефон забойцы, але так і не папярэдзілі трагедыю




**У Гомелі вынеслі прысуд па справе забойства рэпетытаркі.**

На лаве падсудных аказаліся маладая пара і сябар сям'і. Яны спланавалі, а затым і забілі 23-гадовую Марыну Аляксандраву.

На судзе выявілася, што мабільнік Антона, арганізатара забойства, праслухоўваўся сілавікамі. Чакалі ад яго магчымых парушэнняў закона. Якіх? На судзе так і не паведамілі. Адназначна, не разлічвалі на забойства. А размовы ж ён вёў канкрэтныя. Але пра ўсё ад пачатку.

Марына Аляксандрава працавала рэпетытарам. Адукаваная, ветлівая. Ведала некалькі моў. Але вырашыла заняцца каратэ. На секцыі і пазнаёмілася з Антонам. Пасябравалі. Але хутка дзяўчына ўпэўнілася, што яе новы знаёмы — не той чалавек, з якім яна хоча мець сур'ёзныя адносіны. Гэта былі людзі нібы з двух розных светаў: яна — інтэлігентная выкладчыца, ён — пацан з раёна без вышкталцоных манераў. І Марына вырашыла разарваць адносіны. Толькі малады чалавек не адчуў, што чужы для каханай — хацеў яе вярнуць. Хадзіў за ёй, прасіў пагаварыць, пагражаў. Адзін раз нават пабіў, за што пасля адседзеў на сутках. І калі «мірныя» спосабы ў яго арсенале скончыліся, узяўся помсціць.

«Кахаў Марыну... Гэта з'ядала мяне знутры. З гэтым разладам я не мог справіцца. Я эгаіст і цынік. Але таксама хачу кахаць і быць каханым. Проста мне не пашанцавала», — так няхітра Антон тлумачыў свой учынак пасля на судзе.

Некалькі месяцаў ён распрацоўваў план. Адкрыўся знаёмаму Паўлу — той выклікаўся дапамагчы. А ўжо калі была выкапаная магіла ў Веткаўскім раёне, іншыя дэталі абдумалі, Павел расказаў пра іх сакрэт маладой жонцы Кацярыне. І яна, маці дваіх дзяцей (аднаму хлопчыку тады было 1,8 месяца, другому — 3 гады), узялася паўдзельнічаць у забойстве.

У адзін з летніх дзён 2013 хаўруснікі вырашылі дзейнічаць: пад выглядам зацікаўленых у рэпетытарстве Марыну выклікалі на кватэру бабулі Каці. Жанчына тады была ў шпіталі. І як толькі дзяўчына пераступіла парог, на галаву ёй накінулі хустку, а Антон ударыў па галаве. Цела закруцілі ў поліэтыленавыя пакункі ад будаўнічага смецця (у кватэры акурат ішоў рамонт), затым у дыван. І вывезлі на машыне ў лес пад Веткай. Усё зрабілі так, як дзясяткі разоў маглі бачыць у міліцэйскіх серыялах.

На судзе Кацярына прасіла не караць яе сурова — прыкрывалася дзеткамі. І разам з мужам спіхвала ўсю віну на Антона: маўляў, ён прымусіў іх дапамагаць, а адмовіцца не змаглі праз боязь помсты. Толькі суддзя не палічыў раскаянне шчырым. У тэлефонных размовах, між іншым, яна цынічна абмяркоўвала акалічнасці планаванага забойства. Маладая мама непакоілася, што ў кватэры будзе стаяць «непрыемны пах» ад трупа. Фонам чутны дзіцячыя галасы, а размова часам перарывалася мілымі заўвагамі: «Дзімачка, ідзі сюды! Дзімачка, пара спаць!»

...Галоўны арганізатар забойства атрымаў 15 гадоў калоніі, яго хаўруснікі — па 13 гадоў. Абвінаваўца ж прасіў больш: ад 17,5 да 21,5 гадоў. Родныя Марыны будуць абскарджваць прысуд — лічаць пакаранне замяккім.

**Юлія Шымкевіч**

# Застрэліў жонку ў шлюбную ноч на вачах у цешчы

**І спрабаваў забіць сябе.**

Пара з Буда-Кашалёва пражыла разам некалькі гадоў. А цяпер вырашылі атрымаць штамп у пашпарце: распісаліся ў ЗАГСе. Адзначалі ўрачыстасць дома. Нападпітку і ў добрым настроі праводзілі гасцей. Але выпітае абвастрыла ранейшыя праблемы. І калі жонка запаліла цыгарэту, муж узяўся яе ўшчуваць. Маўляў, абяцала ж кінуць гэтую шкодную звычку. Мо маладая і адказала нешта крыўднае, і 35-гадовы муж не стрымаўся. Схапіў стрэльбу і пальнуў каханай у галаву. А затым прыставіў рулю сабе да горла — але толькі пакалечыўся: куля затрымалася ў паднябенні.

Усё адбывалася на вачах у цешчы. Яна, як апамяталася, выклікала «хуткую дапамогу» і міліцыю. Але дачка сканала на месцы, а зяця шпіталізавалі. Ён знаходзіцца ў бальніцы пад канвоем.

Вядома, што муж быў паляўнічым, і стрэльба ў яго была зарэгістраваная. Апошнім часам ён ездзіў на заробкі ў Расію. Дзяцей у пары няма.

**Кастусь Матушыч**

**Цяжкія сямейныя адносіны**

Падобная трагедыя адбылася на мінулым тыдні і ў Мінску. 64-гадовы муж прыехаў на працу да 50-гадовай жонкі — у Цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі Заводскага раёна. І расстраляў яе з пісталета. Вярнуўся ў машыну, што прыпаркаваў непадалёку, і застрэліўся сам. Як адзначылі ў Следчым камітэце, матывы такога ўчынку ляжаць у «плоскасці сямейна-бытавых адносінаў».

## Сцісла

### Страціла памяць

21-гадовая студэнтка Дар'я Шайко знікла ў Брэсце 25 мая: выйшла з інтэрната па цукар і не вярнулася. З сабой не ўзяла ні мабільнік, ні дакументы. Знайшлі дзяўчыну на наступны дзень на ўзбочыне дарогі ў Нясвіжскім раёне непрытомнай — за 200 км ад Брэста. Цялесных пашкоджанняў медыкі ў яе не выявілі. Але Дар'я страціла памяць. Цяпер яна абследуецца ў Мінску.

### Зарэзаў медсястру

Каля крамы ў аграгарадку Лясны ў Мінскім раёне 29-гадовы мужчына 11 разоў ударыў нажом 41-гадовую медсястру. Яна памерла ў рэанімацыі праз гадзіну. Нападніка затрымалі. Жанчына акурат вярталася з працы ў абласной клінічнай бальніцы. Прычына здарэння высвятляецца.

### Маланка забіла пастуха

41-гадовы вясковец пасвіў статак кароў на пашы каля в. Велямічы на Століншчыне, калі пачалася навальніца. Паспяшаўся ў вагончык, каб схавацца ад непагадзі. Але туды ўдарыла маланка, і пастух загінуў. Загінуў і сабака, што ляжаў пад вагончыкам. А другога пастуха, які не паспеў зайсці ўнутр, толькі адкінула — ён застаўся жывы.

### Кіроўца-пачатковец падбіў трох выпускнікоў

Вучні выпускнога класа адной са школ Гродна ішлі па вуліцы Рабочай у напрамку набярэжнай Нёмана, а насустрач ім імчаўся «Нісан». 18-гадовы кіроўца разагнаўся на жвіровым пакрыцці і ўрэзаўся ў металічную агароджу, зачапіўшы трох адзінаццацікласнікаў. Хлопец і дзве дзяўчыны шпіталізаваны. Малады кіроўца атрымаў правы толькі два месяцы таму.

**КМ**

# Генадзь Бураўкін сышоў з марай пра беларускую Беларусь

Паэта Генадзя Бураўкіна не стала 30 мая а 7.30. Пра тое, што ў яго рак ныркі, 77-гадовы паэт даведаўся на пачатку студзеня, падчас абследавання ў бальніцы. Усе гэтыя чатыры месяцы пра хваробу ведалі толькі блізкія сябры паэта, ён не хацеў агучваць гэта.

Пад «Калыханку», напісаную ім, засынала некалькі пакаленняў маленькіх беларусаў. Яго дбаннямі беларускае тэлебачанне ў 1980-х пачало рабіцца нацыянальным.

Пра апошні месяц жыцця паэта піша Сяргей Шапран.

Генадзь Мікалаевіч пазваніў 15 мая і папрасіў прыйсці да яго, асабліва не адкладваючы. У яго было некалькі просьбаў, у тым ліку ён прасіў падрыхтаваць кнігу яго апошніх вершаў. Праз некалькі дзён Бураўкін даў і назву — «Нагаварыцца з зоркамі». «Я ведаю, што гэта мая апошняя кніга, — гаварыў ён. — Гэта для мяне абсалютна ясна. І таму хачу, каб гэтая кніга адпавядала таму настрою, які быў у мяне ў душы. Вось якой я яе гартаў у сваёй душы, якой змог зафіксаваць, такой яна і павінна застацца». Іншым жа разам дадаў: «Рабі яе як чарговую маю кнігу, а не як пасмяротную. Пасмяротныя будуць пасля». І неаднойчы яшчэ потым падкрэсліваў: гэтая кніга — самае дарагое, самае важнае для яго. Гэта і было галоўнае жаданне яго апошніх дзён.

Другая просьба была звязаная з тым, што ён не паспеў напісаць успаміны, і таму цяпер прасіў прыходзіць да яго штодня, каб ён мог гаварыць пад запіс. Зрэшты, вялікіх гутарак ужо не атрымоўвалася — сілы з кожным днём пакідалі яго. Тым не менш, для яго было важным пра нешта распавесці, нешта падсумаваць. Да прыкладу, калі мы былі ў Бураўкіна разам з Міхасём Скоблам і заўважылі Генадзю Мікалаевічу, што жыццё яго пражыта недарэмна, ён гэта не аспрэчваў: «Не, не дарэмна. Гэта я смела скажу, таму што тры рэчы, якія я зрабіў, робяць мне гонар: гэта тое, што я стварыў нацыянальнае Беларускае тэлебачанне; тое, што ўдзельнічаў у абароне Быкава; трэцяе — кангрэс за Незалежнасць». Менавіта гэтыя тры гісторыі свайго вялікага жыцця Бураўкін і лічыў цяпер, перад самым сыходам, найістотнымі падзеямі ўласнага лёсу.

Зрэшты, апроч мары паспець убачыць сваю апошнюю кнігу, Генадзь Мікалаевіч назваў яшчэ адно жаданне: «Я мару, — казаў ён, — я імкнуся да беларускай Беларусі. Але гэта пакуль што не адбылося». І ў адказ на пытанне: «Аднак, на Вашу думку, гэтая беларуская Беларусь некалі ўсё ж будзе?» Бураўкін дадаў: «Хачу, каб была, але гэтая вера слабая».

З тым ён і пайшоў у незваротны свой апошні шлях — з новай паэтычнай кнігай «Нагаварыцца з зоркамі», сігнальны экзэмпляр якой з'явіўся за тры дні да яго смерці, і з хай і слабой, але тым не менш верай у тое, што некалі яна ўсё-такі будзе — гэтая беларуская Беларусь.

**Сяргей Шапран**

**Усебеларускі з'езд за Незалежнасць**

сабраў грамадзянскую супольнасць Беларусі ў 2000. Яго прычынай была пагроза незалежнасці, якая ўзнікла пасля падпісання дамовы аб стварэнні саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Генадзь Бураўкін быў сустаршынёй з'езду.


Юлія Дарашкевіч

## Ён мог стаць беларускім Бразаўскасам

«Бураўкіну даводзілася чуць папрокі ў тым, што ён «быў пры пасадах». Але ніхто не скарыстаў сваю прыналежнасць да савецкай, камуністычнай эліты з гэткай карысцю для Беларусі, як Бураўкін.

У 32 гады ён робіцца ўласным карэспандэнтам «Праўды» — і пасылае ў рэдакцыю артыкул Зянона Пазняка ў абарону забудовы гістарычнага цэнтра Мінска. Бураўкіна прызначаюць галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць» — і ён друкуе Быкава і Караткевіча. Нарэшце, ён узначальвае Дзяржтэлерадыё — і стварае беларускае нацыянальнае тэлебачанне. Фармуецца нацыянальная свядомасць пакалення, якое потым уздыме сцяг Адраджэння.

...Ён быў адзіным, хто рэальна мог зрабіцца беларускім Бразаўскасам. Пасля жніўня 1991-га ў Вярхоўным Савеце XII склікання за яго прагаласавалі б і камуністы, і апазыцыя БНФ. І ён бы ўжо са сваім талентам пераконваць і шукаць кампрамісы без здрады галоўнаму — здолеў утрымаць Беларусь ад саскоквання ў прэзідэнцкую дыктатуру. Бураўкін быў бы гэтым шанцам — калі б вясной 1990-га яго не заблакавалі ў Полацку на выбарах у Вярхоўны Савет. Ён то перамог, але напісалі, што ў другім туры на ўчастку прыйшло менш за 50% выбарцаў.

Але і таго, што зрабіў Бураўкін — хопіць, каб Беларусь памятала яго вечна.

**Сяргей Навумчык**

## Апошні верш Бураўкіна




* * *

*Людміле Кашкурэвіч*

У кватэры настылай
Я шукаю прытулку ў мальбе…
Мой адзіны,
Мой мілы,
Навучы мяне жыць без цябе.

Я хаджу, як сляпая,
Пераблытаўшы ночы і дні.
Мне цябе не хапае.
Ты хоць зрэдку мне ціха шапні.

Як набрацца мне сілы,
Каб не згаснуць у чорнай журбе?
Мой адзіны,
Мой мілы,
Навучы мяне жыць без цябе!..

21.XII.2013 г.
Мінск

### Спачуванні праз nn.by

Схіляю галаву перад паэтам! Прашу родных і блізкіх прыняць маё спачуванне!

**Леанід Дранько-Майсюк**

Чорны год, увесь у жалобе. Спадарыня Юля, спадары Аляксей, Павал, Арсень і ўсе блізкія яму людзі (а іх шмат), трымайцеся. Вечная памяць выдатнаму і такому сучаснаму Паэту.

**Лявон Баршчэўскі**

Чытаю, а ўвушшу стаіць голас Генадзя Мікалаевіча. Здаецца, нямала размаўлялі, але пра многае так і не пагаманілі. Слёзы самі цякуць з вачэй. Вечная памяць.

**Анатоль Сідарэвіч**

Быкаў, Барадулін, Бураўкін. Тры апосталы беларушчыны, тры вялікія Беларусы. Генадзь Мікалаевіч апошнія гады быў і за сябе, і за іх. Да апошняга працаваў і змагаўся. Балюча ўсведамляць, што і яго ўжо няма з намі — разумнага, прыстойнага, чалавечнага. Ніколі не забудзем!

**Валянцін Голубеў**

Светлая памяць шчыраму Беларусу, самаму лірычнаму Паэту роднай старонкі, сардэчнаму Чалавеку. Паплач, мая душа, найскрушнаю слязою…

**Кастусь Севярынец**

Вельмі сумная навіна. Светлая памяць.

**Зміцер Вішнёў**

Кожны раз плачу, чытаючы «Малітву» Генадзя Бураўкіна. Шлю спачуванне родным Генадзя Мікалаевіча і ўсёй краіне ад сяброў Грамады беларускай культуры ў Маскве і ад сябе асабіста. Найлепшыя адыходзяць… Жывым трэба заставацца вартым іх запаветаў.

**Таіса Мішчанка**

Такі прыемны і сонечны чалавек, з добрымі вачыма і такой прыемнай усмешкай. А якія ў яго «цікаўныя» вочы, яму ўсё было цікава. Спачуванні родным і ўсім беларусам.

**Святлана Барташэвіч**

Пагасла яшчэ адна наша яркая зорка. Але ніколі не згасне святло, якое ён запаліў у душах сваіх суайчыннікаў. Яго гарачыя і прарочыя словы і справы бессмяротныя.

**Валянціна Лемцюгова**

Верылася, што калі ягоная маці пераўзышла стагадовы ўзрост (а тое, не сумняюся, апроч спадчыннасці, шчэ і сведчанне вялікай любові да яе), то і сыну Генадзю наканавана доўгажыхарства. Нават з цяжкай анкалогіяй верылася ў цуд. Але мала аказалася проста верыць. За жыццё чалавека, у веліч якога верыш, трэ змагацца пастаянна. Светлая памяць Паэту!

**Андрэй Мельнікаў**

Дзякуй Вам, Пясняр, за ўсё добрае! Светлая і ўдзячная памяць!

**Эдуард Дубянецкі**

Светлае імя нашага даўняга сябры Генадзя Бураўкіна будзе зіхцець на даляглядзе беларускае будучыні прываблівым прыкладам жыцця, пражытага паводле прынцыпу: «Калі не спяваць аб Радзіме, дык навошта наогул спяваць».

**Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель**

Светлая памяць! Вялікая падзяка за ўсю творчасць і незабыўныя паездкі да маці пад Полацак! Ганаруся, што лёс асвяціў жыццё знаёмствам з гэтым Вялікім паэтам і Беларусам!

**Сяржук Тарасаў**

Божа, прымі ў свае валадарства, светлую душу сапраўднага Паэта і Грамадзяніна Беларусі! Спачуванні ўсім родным і блізкім людзям ад сям'і Глушаковых.

**Агня Глушакова**


**Бураўкіна адпелі па-беларуску** ў мінскім Петрапаўлаўскім саборы. Храм быў поўны і не мог змясціць усіх жадаючых. Праводзіць яго ў апошні шлях прыйшлі некалькі соцень чалавек. З сабора цела Бураўкіна праводзілі пад нацыянальнымі сцягамі. Паэт спачыў на Усходніх могілках Мінска, у пантэоне культурных і дзяржаўных дзеячаў Беларусі.

# Штурм віленскага тэлецэнтра: гісторыя хлусні і прапаганды

19 сакавіка Камісія па радыё і тэлебачанні Літвы пастанавіла забараніць на тры месяцы вяшчанне расійскага тэлеканала «НТВ Мир». Прычынаю стаў паказаны дакументальны фільм Аляксандра Сладкова «Прысуджаныя: капкан для групы «Альфа». У фільме праводзіліся паралелі між падзеямі на кіеўскім Майдане і каля віленскай тэлевежы ў 1991. Амерыканская выведка, даводзяць аўтары фільма, спланавала дзве аднолькавыя аперацыі, і ўсе ахвяры былі забітыя снайперамі, якія дзейнічалі пад кіраўніцтвам лідараў апазіцыі.

Галоўная ідэя фільма — «Правы сектар» у Кіеве страляў па сваіх дзеля правакацыі, а апісанне падзей каля віленскай тэлевежы было ў фільме нібыта ў даважку. Хоць большая палова стужкі якраз была прысвечаная Вільні-1991. Там было 14 забітых і 600 параненых, пры гэтым, у адрозненне ад кіеўскіх падзеяў, не засталося відэадакументаў, па якіх было б бачна, хто і адкуль страляў. Дагэтуль невядомыя акалічнасці гібелі большасці ахвяраў. Гэта з самага пачатку стварала глебу для хлусні.

Адразу пасля трагедыі партыйныя дзеячы і тыя, хто камандаваў аперацыяй — першы сакратар Кампартыі Літвы Буракявічус, сакратар па ідэалогіі ЦК КПЛ Ермалавічус, камандуючы віленскім гарнізонам Усхопчык і рэдактарка газеты «Літва Савецкая» Юонене, — звалілі ўсю віну на абаронцаў тэлецэнтра: маўляў, у іх там і зброя была, і кактэйлі Молатава...


Вільня, 1991. Літоўцы спрабуюць спыніць савецкі танк, які трушчыць людзей.


Пахаванне загінулых абаронцаў тэлецэнтра.

### Ларэта, забітая танкам

Болей ці меней былі вядомыя акалічнасці гібелі толькі 23-гадовай Ларэты Асанавічуце, адзінай жанчыны з ахвяраў штурму. Дзяўчына, пахаваная ў шлюбным уборы, стала ў незалежнай Літве сімвалам мірнай барацьбы літоўскага народа з савецкім таталітарным рэжымам, як і ковенскі студэнт Ромас Каланта, які спаліў сябе ў знак пратэсту супраць русіфікацыі і савецкай акупацыі Літвы. Імем Асанавічуце названая вуліца ў Вільні, яе імя і фота ідуць заўсёды першымі ў спісах ахвяр «Студзеньскіх падзей». У адрозненне ад іншых загінулых, Асанавічуце пасля атрымання траўмаў ля тэлецэнтра доўгі час знаходзілася ў прытомнасці (і, верагодна, выжыла б, каб не аўрал, які панаваў у хірургічным аддзяленні віленскага «Чырвонага Крыжа» пасля «навядзення канстытуцыйнага парадку» — 600 параненых за ноч), адказвала на пытанні, што задакументавана на відэазапісах.


18-гадовая Ларэта Асанавічуце загінула пад коламі савецкага танка.

Паводле версіі паўстанцаў, якая цяпер з'яўляецца афіцыйна прынятай у Літве, Асанавічуце на момант атрымання траўмаў была ўжо па-за ачапленнем, як і іншыя жанчыны і дзеці, якія выйшлі за ланцуг абаронцаў вежы і проста стаялі і скандавалі лозунгі, замінаючы танкам пад'ехаць да ачаплення (адпаведна, не магла з'яўляцца камбатантам, нават калі прыняць версію Усхопчыка і іншых, што хтосьці там аказваў узброены супраціў). Танк прыціснуў яе бортам, а затым працягнуў уздоўж агароджы. У выніку дзяўчына атрымала перелом крыжа і костак таза, разрывы скуры і цягліц, множныя кровазліцці ў тазавай вобласці і чэраўнай паражніне, разрыў лоннага зрашчэння і брушыны... Яна была дастаўленая ў бальніцу ў прытомнасці, была здольная назваць сваё імя і адрас, пыталася ў дактароў, ці зможа мець дзяцей пасля такіх траўмаў. Той жа ноччу была прааперавалая, а раніцам памерла ад унутранага кровазліцця.

Пашкоджанні, характэрныя для траплення пад цяжкі транспартны сродак, таксама меліся ў траіх загінулых: Янкаўскаса, Каваліокаса і Шымулёніса. Аднак члены Камітэта нацыянальнага выратавання — неканстытуцыйнага органа ўлады, які спрабавалі стварыць прыхільнікі захавання Літвы ў складзе СССР — з першага дня сцвярджалі, што пад танк трапіла адна Асанавічуце.

### «Прадалі труп дачкі за бутэльку»

Спачатку была прыдуманая зусім брыдкая версія: маўляў, Асанавічуце была з сям'і алкагалікаў, памерла з перапою, бацькі яе цела падкалі пад трактар і ў знявечаным выглядзе падкінулі да тэлецэнтра, атрымаўшы за гэта грошы на гарэлку ад лідара партыі «Саюдзіс» Ландсбергіса. Тым часам з характарыстык вядома, што Асанавічуце наогул не піла і на швейнай фабрыцы, дзе працавала, удзельнічала ў гуртку мастацкай самадзейнасці «Dainavos», з якім аб'ездзіла паўСССР. Бацькі яе жывыя і цяпер, маці, Стасю, часта паказваюць па тэлебачанні, і яна не стварае ўражання алкагалічкі.

Загінулага Янкаўскаса таксама выстаўлялі алкаголікам, які стаяў на ўліку ў наркадыспансеры. Расказвалі, што ён трапіў пабач з тэлевежай пад машыну, у п'яным выглядзе перабягаючы дарогу.

Абсурднасць версіі пра п'янства Асанавічуце вымусіла прапагандыстаў змяніць яе. Паводле новай версіі, Ларэта ў машыне хуткай дапамогі казала шафёру, што яе штурхнулі пад танк нейкія людзі, якіх яна ведала. Гэтую версію агучыла, што цікава, адно з першых расійскіх незалежных выданняў «КоммерсантЪ». З'явіліся падрабязнасці: быццам Усхопчык папярэджваў у мегафон, каб людзі адышлі ад агароджы, бо танкі ідуць усляпую, а Асанавічуце і яе сяброўка сядзелі на агароджы і не паслухаліся. Пасля танк зачапіўся за плот, і абедзве ўпалі проста пад гусеніцы. Толькі паводле той сяброўкі, Трučыляўскайце, дзяўчаты не сядзелі, а стаялі каля плота. А танк, прыціснуўшы іх, здаў назад. Нібы спецыяльна часаў па плоце, каб скалечыць.

### Не той калібр

Што да ахвяраў з агнястрэльнымі раненнямі, дык Усхопчык і цяпер адстойвае версію, што трупы звезлі ў бальніцу з усёй Літвы, а там ужо стралялі ў мёртвых. Другая версія была распрацаваная паралельна: паколькі ўваходныя адтуліны куляў накіраваныя зверху ўніз, у абаронцаў стралялі свае ж з тэлецэнтра. Больш лагічнае тлумачэнне ў тым, што кулі рыкашэцілі ад брыля будынка і трапілі ў цывільных асобаў, якія стаялі ў ачапленні.

У фільме Сладкова — таксама камітэцкая логіка. Калі на фота самыя першыя байцы літоўскіх сілавых структураў узброеныя вінтоўкамі Мосіна 1930-х гадоў выпуску — значыць, з іх і стралялі снайперы, якія працавалі пад кіраўніцтвам амерыканскіх спецслужбаў. Ну, усё ж, Амерыка не такая бедная краіна, каб не забяспечыць снайпераў зброяй. Дый у 91-м развал Савецкай Арміі дасягнуў такіх памераў, што можна было і танк на бутэльку абмяняць, не тое што снайперскую вінтоўку.

Але галоўнае — у лагічных нестыкоўках, якія ўзнікаюць у фільме. Журналіст Сладкоў пераконвае, што загінулы баец «Альфы», лейтэнант Шацкіх, быў забіты ў спіну абаронцамі тэлевежы, а не сваімі ж, як даказала следства незалежнай Літвы. Маўляў, свае забіць не маглі: Шацкіх ішоў замыкаючым. Пры гэтым не аспрэчваюцца вынікі медыцынскай экспертызы, паводле якой Шацкіх забілі з АК-47, а не з мосінскай трохлінейкі. Шэраг сведкаў казалі, што ў абаронцаў вежы таксама былі аўтаматы Калашнікава. Многія сцвярджалі, што бачылі трасы ад куль з дахаў дамоў насупраць вежы, але ніводзін не казаў пра стралы з самой вежы. Былы супрацоўнік 6-га аддзела МУС ЛітССР Шульцас сказаў на судзе, што апаратыўнікі мелі права праходзіць у кватэры цывільных асобаў і займаць пазіцыі на балконах — для аператыўнай здымкі. Можа, яны і стралялі?

Ізноў жа: калі ў абаронцаў вежы былі «калашы», навошта карыстацца для правакацыйных мэтаў вінтоўкамі Мосіна? Чаму Шацкіх забілі з АК-47, а астатніх — з трохлінеек? Калі б стаяла мэта забіць канкрэтную асобу, тут «мосінка» будзе лепей за аўтамат Калашнікава. Але, паводле фільма, стаяла задача даказаць крывавасць рэжыму і справакаваць рускі пагром і агрэсію супраць савецкіх вайскоўцаў.

### Узважанасць «Саюдзіса»

Аднак і Ландсбергіс, і іншыя кіраўнікі «Саюдзіса» разумелі, што савецкае войска ўсё роўна невымерна мацнейшае за тагачасныя літоўскія сілавыя структуры, і наўрад ці яны хацелі, каб сцэнар з этнічнымі пагромамі прывёў да паўтарэння «чорнага студзеня», які быў у Баку ў 1990. Пагромаў у Літве не было ні пасля штурму тэлевежы, ні пасля Медніцкай мытні, развітанне з СССР адбылося мірна: проста з'ехалі без лішніх эмоцый тыя, хто прынцыпова не мог адмовіцца ад таго, што «іх адрес не дом і не ўліца».

Кіраўніцтва «Саюдзіса» як магло пазбягала ўдзелу ў занадта радыкальных акцыях пратэсту. На тэлебачанні сапраўды было шмат нацыяналістычных лозунгаў, але яно не заклікала літоўцаў рэзаць «рускіх акупантаў». Перад літоўскімі нацыяналістамі стаяла пытанне аднаўлення незалежнасці, а не этнічнай чысткі. Калі б амерыканская разведка хацела рускі пагром — справакавалі б, наўрад ці думаць, што ў іх не мелася выхадаў на крымінальныя групоўкі («хебры») таго часу, якія складаліся з этнічных літоўцаў.

Сладкоў у сваім фільме намагаўся даказаць, што Ландсбергіс і кіраўнікі сілавых структур Літвы ўчынілі вайсковае злачынства: выставілі бяззбройных людзей на абарону тэлевежы. Аўтар фактычна прызнаў, што мела месца вайсковая аперацыя, а не падтрымка канстытуцыйнага ці яшчэ там якога парадку, а вежа была аб'ектам непрыяцеля. Паколькі Літва на той момант афіцыйна знаходзілася ў складзе СССР, выходзіць, што Усхопчык, група «Альфа» і Камітэт нацыянальнага выратавання ваявалі з уласным народам. Што на самай справе і было. І, адпаведна, Літва справядліва патрабуе ад Беларусі выдачы вайсковых злачынцаў.

**Раман Мамчыц**

Ігар Бабкоў. **Урывак з рамана.**

# Хвілінка

Францішак любіў казаць, што ён нарадзіўся ў гэтым часе і гэтым месцы толькі дзеля таго, каб пакаштаваць добрай кавы ў прыстойнай кампаніі.

Было, праўда, няясна, жартуе ён ці гаворыць сур'ёзна: інтанацыя, з якой вымаўлялася фраза, заўважна мянялася ў залежнасці ад гадзіны, пары года, месца, а таксама ад колькасці выпітага каньяку.

Гэтая фраза магла гучаць ціха і спакушальна, у каляровай раскошы восеньскага сутоння. Магла роспачна — як званок у хуткую дапамогу. Магла гучаць сціплай канстатацыяй: так, сапраўды, больш анічога не застаецца рабіць у эпоху непапраўнай дэградацыі свету, у часы Калі-Югі, як толькі прыйсці ў кавярню і замовіць гэты кубачак з густой, цёмна-духмянай вадкасцю. І потым доўга сядзець, гледзячы кудысьці далёка, працінаючы позіркам сцены і эпохі.

Таксама не было ясна, што значыць «прыстойная кампанія»: усе ведалі, што Францішак любіў піць каву адзін.

* * *

Зрэшты, я дакладна ведаю, што Францішак зусім не жартаваў. Ён гаварыў чыстую праўду.

Было такое месца ў Менску ў халодныя часы. Нават цяпер, калі ўсё змянілася, некаторым людзям — і ў асаблівыя моманты — я прызначаю там спатканні.

Назва была дастаткова простая для эпохі, зачараванай пластыкам і сіліконам: «Хвілінка».

Адкуль яна паўстала, было невядома. Некаторыя думалі, што так пераклалі французскарасейскае бістро, іншым чуліся метафізічныя ноткі. «Хвілінка», казалі яны, — гэта само чалавечае жыццё, у якое мы патрапляем зусім не велічна, без фанфараў. З няяснымі мэтамі. І дзе кожны спрабуе знайсці штосьці сваё.

Так, сапраўды, для большасці: смачныя пахі, прадчуванне магчымасцяў, спроба выбраць. Потым доўгая чарга. Потым каса, дзе трэба за ўсё заплаціць. Потым...

Але не гэта было галоўным.

Сюды можна было прыйсці, — так мы тады казалі.

Гэта было дзіўнае месца.

Уласна кажучы, гэта была зусім і не кавярня. Там не было асобнага ўвахода, гардэроба з люстэркам, не было залы са столікамі і афіцыянтамі. Толькі невялічкі барны закуток з трыма стойкамі, — напрыканцы адной з першых менскіх піцэрыяў. У гэтым закутку стаяў каўны апарат, на якім рабілі эспрэса, — таксама адзін з першых у познесавецкую эпоху — і, напэўна, найлепшы.

Зрэшты, і гэта яшчэ нічога не тлумачыць. Ясна, былі й іншыя месцы. Былі сапраўдныя



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

кавярні, былі ціхія куточкі ў гастраномах, дзе стаялі каўныя апараты, і ў некаторых кава была някепская. Пад гадзіннікам, альбо на Чырвонай. Часам усе скіроўваліся туды — у пошуках чагосьці новага, незвычайнага. І тады знаходзілі сябе ў іншых дэкарацыях. Напэўна, проста таму, што доўга сядзець — стамляе (так сказаў адзін наш добры знаёмы, калі яго запыталі, навошта ён пацягнуўся ў Кітай з Індыі, адзін, у шостым стагоддзі нашай эры).

Сапраўды, былі розныя магчымасці. Была Халодная кавярня, у сутарэннях пад Палацам мастацтва, дзе каву гатаваць не ўмелі, але дзе можна было чытаць і гаварыць гадзінамі, пакуль не змерзнеш. Была Звар'яцелая кавярня ў Траецкім, на другім паверсе, дзе гатавалі толькі паўсходняму і дзе вясці размову было немагчыма — бо там гаварылі адразу ўсе, голасна, амаль крычалі.

І ўсё ж такі гэты закуток быў асаблівым.

Перш за ўсё асаблівай была прастора.

Гэта было ўзвышша, самае высокае месца горада. І да таго ж, месца разлому.

* * *

Менавіта там, у «Хвілінцы», маё жыццё раптам адкрылася мне як кветка: у яго празрыстай няўцямнасці, загадкавай і незразумелай прысутнасці in-der-Welt.

Як гэта здарылася, я памятаю і цяпер: я стаяў за высокім столікам. Была позняя восеньская раніца 1982 года. Сонца ледзьве прабівалася праз хмары.

Я замовіў падвойную, як звычайна, і стаяў за далёкай стойкай, адзін. Горад распачаў працоўны дзень, і цяпер, пасля ранішняй мітусні, крыху аціх, затрымаўся — ці то ў чаканні абеду, ці то ўжо ў прадчуванні вясёлай вечаровай ілюмінацыі.

І тут за вакном адбылося штосьці надзвычайнае. Я адчуў гэта ўнутры, усёй сваёй істотай.

Усё раптам знікла.

Я прысеў на падваконне, мне стала млосна. Але гэта было не проста фізічнае пачуццё, а штосьці больш складанае і насычанае. Амаль неадсоль. Штосьці накшталт сартраўскай nausea. Памятаеце, у ягоным рамане галоўны герой патрапляе ў гэтую пастку.

Усё, што было такім важным, усё, што так ганарылася сваёй трываласцю, імкнулася быць назаўсёды, — усяго гэтага больш не існавала.

Свет павольна адыходзіў ад мяне, згортваўся ў клубочак, знікаў. Гэта было дзіўнае пачуццё: я адчуваў сябе так, як быццам бы свет завіс у маёй свядомасці, нібы навагодняя цацка на святочнай ялінцы. Яе можна было пагойдаць, можна было пахадзіць вакол, прыглядзецца.

Што здарылася, я так ніколі і не зразумеў.

Можа, раніца была занадта дзіўная, а можа, Леа не пашкадаваў кавы для падвойнай, і кафеін дабра-такі ўдарыў па маёй чыстай, яшчэ не нагружанай навакольнай ілюзіяй ранішняй свядомасці.

Усё заставалася такім, як ёсць. Машыны рухаліся ў розных кірунках, кудысьці ішлі людзі, у шапіках прадавалі «Правду» і «Вечерний Минск», піянеры ўскідвалі рукі ў салюце і давалі клятву жыць, як завяшчаў вялікі Ленін, менскае метро рыхтавалася ўпусціць у свае светлыя залы савецкі народ беларускага разліву...

І ў той жа час было ясна, што гэта толькі ілюзія, сон — усяго гэтага насамрэч няма. І неістотна, сніць гэты сон хтосьці канкрэтны, напрыклад Бог, ці гэта калектыўная галюцынацыя ніжэйшага анталагічнага гатунку.

Не, я зусім не спужаўся.

Хаця, напэўна, мусіў. Бо калі ўсё так нетрывала, знікома, не мае аніякага сэнсу трымацца і ўтрымоўваць, не мае сэнсу караскацца разам з усімі, рабіць кар'еру, думаць пра кватэры, дачы, пра тое, каб стаць у чаргу па «жыгулі».




Ігар Бабкоў. Хвілінка: Тры гісторыі. — Мінск: Логвінаў, 2013.

Але я, наадварот, адчуў сябе свабодным. Чалавек чамусьці пачынае адчуваць сябе чалавекам, толькі калі ён крыху выпадае са свету. Ці калі свет выпадае з яго.

А потым я стаў абсалютна шчаслівым.

Гэта немагчыма патлумачыць, чаму чалавек, які разумее, што анічога нельга ўтрымаць, становіцца шчаслівым.

Я проста перастаў трымаць — і трымацца.

Спачатку паплылі самыя простыя рэчы: кубачак з кавай, які стаяў на стойцы, раптам прыўзняўся і завіс у паветры, дакладна перада мной. Потым павольна адплыў і ўжо там пачаў паваліўчаца ў памерах, змяняць форму, пераўтварацца ў розныя рэчы.

Ён як быццам здзекаваўся з чалавечага спадзявання на ўстойлівасць і зразумеласць свету. Там, на бяспечнай аддаленасці, ён пераўтвараўся то ў кнігу, то ў маленькую дзяўчынку, то ў вялікага цацачнага тыгра. Урэшце ён пераўтварыўся ў мяне самога: я глядзеў на сябе здалёк і загадкава ўсміхаўся.

Потым ад мяне аддзяліліся сны.

Потым — і гэта самае дзіўнае — ад мяне аддзялілася маё Я і таксама пачало знікаць удалечыні. Ці, больш дакладна, тое, што я лічыў сваім я: фрагменты размоваў, важных і няважных, урыўкі успамінаў, лустачкі эмоцыяў.

На пэўны час я застаўся ў адсутнасці, там, дзе нічога няма. Колькі я там прабыў — невядома: там не было часавых адзнакаў, каб свядомасць магла за штосьці зачапіцца.

А потым усё вярнулася.

Я сядзеў на падваконні, першыя наведнікі замаўлялі штосьці каля барнай стойкі, Леа паставіў кружэлку, і зайграла музыка. Білі Холідэй спявала пра няшчаснае каханне, і чамусьці было страшна солодка слухаць яе гісторыю, і нават не проста солодка, а страшна істотна, я разумеў, што няма анічога больш істотнага ў свеце, чым гэтая музыка.

# Прэмію Ежы Гедройца атрымаў Бабкоў

У гасцініцы «Вікторыя» абвясцілі найлепшыя празаічныя кнігі мінулага года.

Першае месца і чэк на 10 тысяч еўра ад «Ідэябанка» атрымаў Ігар Бабкоў за раман «Хвілінка. Тры гісторыі». Адметна, што ў дзень уручэння прэміі яму споўнілася 50 гадоў.

«Гэта кніга пра Мінск 1980-х, пра кавярню «Хвілінка», якая рэальна існавала, — просты барны закуток у піцэрыі. Туды прыходзілі наведнікі, аднойчы туды трапіў і я. Хоць гэта была і лакальная з'ява, там адбываліся важныя для ўсёй Беларусі рэчы, якія адгукнуліся ў 1990-я і ў 2000-я. Гісторыя трох персанажаў — паэта, змагара і спявачкі, якія знаёміцца ў гэтай кавярні. Яны пражываюць свае жыцці і са здзіўленнем бачаць сябе зноў на тым самым месцы», — расказвае Бабкоў.

Артур Клінаў і ягоны постмадэрнісцкі раман «Шклатара» ацэнены другім месцам і творчай стыпендыяй на востраве Готланд. У Вінцэся Мудрова трэцяе месца за зборнік апавяданняў «Багун». Ён атрымаў магчымасць прайсці літаратурную стажыроўку ва Уроцлаве. Прэмію за яго атрымаў сын.

Апроч іх, у шорт-ліст уваходзілі Алена Брава, Сяргей Вераціла і Людміла Рублеўская. У адрозненне ад мінулага года, на цырымонію сабралася няшмат людзей, зала была паўпустая.

Літаратурная прэмія імя Ежы Гедройца заснавана ў 2011 годзе. Прэмія прысуджаецца за найлепшую кнігу, выдадзеную на беларускай мове ў жанрах мастацкай прозы і эсэістыкі. Раней лаўрэатамі станавіліся Павел Касцюкевіч і Уладзімір Някляеў.

**ЗП**

**Досціп**

Уладзімір Някляеў на ўручэнні прэміі: «Я не скажу, што ўся кніга Сяргея Верацілы мая любімая, але ў Верацілы ёсць мая любімая фраза — «Прыйшла вясна, дзеўкі ногі падаставалі».

**Ігар Бабкоў**

Нарадзіўся ў 1964 у Гомелі. Пісьменнік, філосаф. Скончыў аддзяленне філасофіі БДУ, аспірантуру. Працуе ў Інстытуце філасофіі НАН Беларусі, займаецца сучаснай посткаланіяльнай тэорыяй і гісторыяй філасофіі. Рэдагаваў часопіс «Фрагменты». Аўтар рамана «Адам Клакоцкі і ягоныя цені».

## ФУТБОЛ

### Тур 11 і 12

**6-7 чэрвеня** адбудуцца матчы 11-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.
У пятніцу гуляюць:
«Гомель» — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна);
«Белшына» (Бабруйск) — «Мінск»;
«Слуцк» — «Дняпро» (Магілёў).
У суботу:
«Дынама» (Мінск) — «Нафтан» (Навапалацк);
«Дынама» (Брэст) — «Шахцёр» (Салігорск);
БАТЭ (Барысаў) — «Нёман» (Гродна).
А ўжо **11-12 чэрвеня** пройдуць матчы наступнага тура.
У сераду сустракаюцца:
«Тарпеда-БелАЗ» — «Нафтан» (Навапалацк);
«Дынама» (Мінск) — «Дняпро» (Гомель);
«Слуцк» — «Нёман» (Гродна);
«Белшына» (Бабруйск) — «Гомель».
У чацвер:
БАТЭ (Барысаў) — «Шахцёр» (Салігорск) — цэнтральная гульня тура.
«Дынама» (Брэст)— «Мінск».

## ІМПРЭЗЫ

### Фестываль вулічнай культуры і спорту

**Minsk Street Gamez** — фестываль вулічнай культуры і спорту пройдзе 7 чэрвеня на «Мінск-Арэне» (пр.Пераможцаў, 111). Будзе скейтбордынг, вулічны баскетбол, ролікі, а таксама хіп-хоп музыка.

## КАНЦЭРТЫ

### «Начныя снайперы»

**6 чэрвеня а 19-й у КЗ «Мінск» (Кастрычніцкая, 5)** выступіць гурт «Начныя снайперы» з новай праграмай.

### «Мамкіны пацеркі»

**7 чэрвеня ў клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** грае гурт «Мамкіны пацеркі». Пачатак а 19-й.

## ВЫСТАВЫ

### «Скульптура: XXI»

**У Палацы мастацтваў (Казлова, 3)** працуе выстава сучаснай беларускай скульптуры «Скульптура: XXI». Усе паказаныя ў экспазіцыі творы створаныя ў новым— XXI— стагоддзі. Практычна ўсе беларускія скульптары, якія зараз актыўна працуюць, прэзентуюць тут свае творы. Такім чынам, выстава павінна наглядна адлюстраваць самыя сучасныя тэндэнцыі і напрамкі беларускай скульптуры.

### Bazinato

**У галерэі «Ў» (Незалежнасці, 37А)** у тры дні пройдзе персанальны праект аўдыё-візуальнага даследчыка Bazinato. Перад вамі паўстане мінулае, сучаснасць і будучыня. Аўтар дэталёва разглездзіць людскія мары і жаданні, страх і прагу да жыцця, прыналежнасць цялеснага ды генацыд багоў. Тры дні як адзінае цэлае: вывучэнне рэальнасці і выдумкі ў пары з Bazinato.
**6 чэрвеня —** плоскасныя даследаванні.
**7 чэрвеня —** скульптура, інсталяцыя і відэа.
**8 чэрвеня —** музычныя і анімацыйныя даследаванні.



### Алесь Камоцкі

**9 чэрвеня ў Музеі Янкі Купалы (Купалы, 4)** ладзіць канцэрт Алесь Камоцкі. Пачатак а 19-й. Уваход вольны.

### «Беларускія краявіды»

**Літаратурны музей Максіма Багдановіча (Багдановіча, 7А)** запрашае 4 чэрвеня на адкрыццё выставы жывапісу Яна Рыдзькі «Беларускія краявіды». Пачатак а 18-й.

## ТЭАТРЫ

### 5 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Купалаўскі** — Макбет
**Оперы і балета** — Пікавая дама
**Юнага гледача** — Сакрэт сапраўднага сяброўства

### 6 чэрвеня

**Купалаўскі**— Пінская шляхта
**Оперы і балета**— Пікавая дама
**Юнага гледача**— Прыгоды Бібігона

### 7 чэрвеня

**Беларускай драматургіі**— Дажыць да прэм'еры
**Лялек**— Залаты ключык, або Прыгоды Бурацiна

### 8 чэрвеня

**Купалаўскі**— Вячэра з прыдуркам
**Лялек**— Малы і Карлсан, які жыве на даху

### 9 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — Раскіданае гняздо
**Купалаўскі**— Пан Тадэвуш

### 10 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты
**Оперы і балета** — Севільскі цырульнік
**Юнага гледача**— Прыгоды Бібігона

### 11 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — Нязваны госць
**Купалаўскі** — Офіс
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Оперы і балета** — Лебядзінае возера
**Юнага гледача** — Беласнежка і сем гномаў

## КІНО

### Злымі не нараджаюцца

Малефісэнта
**Жанр:** фэнтэзі, казка, драма
**Рэжысер:** Роберт Стромберг
**У ролях:** Анжаліна Джалі, Эль Фанінг, Шарлта Коплі, Лэслі Мэнвіл, Імельда Стонтан, Джуна Тэмпл, Сэм Райлі
ЗША, 97 хв.

Чараўніца Малефісэнта жыве ў недасяжных для людзей балотах разам з чароўнымі істотамі, яна — наймагутнейшая вядзьмарка. Аднойчы яна сустракае хлопчыка Стэфана, які на некаторы час становіцца яе сябрам. Але той мае выключныя амбіцыі — стаць гаспадаром замка. Калі кароль людзей спрабуе захапіць чароўны свет і цярпіць паразу, ён гатовы аддаць усё — нават трон і прынцэсу — дзеля помсты Малефісэнце. Стэфан бачыць у гэтым свой шанец і карыстаецца ім...
Фільм зняты па матывах казкі Шарля Перо і дыснэеўскага мультфільма «Спячая прыгажуня». Зяміўся акцэнт: цэнтрам фільма і галоўнай гераіняй стала Малефісэнта, ролю якой надзвычай удала выканала Анжаліна Джалі. Рэжысёрскі дэбют Стромберга адметны ўражвальным, але чакана прыгожым візуальным складнікам, бо ён мае досвед мастака-пастаноўшчыка ў вядомых «Аватары» (2009) і «Алісе ў краіне цудаў» (2010), якія таксама былі амаль цалкам намаляваныя. Тут можна ўбачыць маляўнічы свет, у якім жыве Чароўны народзец і мноства невядомых істот, падказаных казкамі, легендамі і фантазіяй аўтараў. Хоць сюжэт казкі, вядомы амаль кожнаму, расквечаны новымі падрабязнасцямі. Сумаваць не давядзецца ні дзецям, ні дарослым.

**Настасся Уласава**

ANGELINA JOLIE
MALEFICENT

# Амерыканцы будуць «замарожваць» цяжкапараненых, каб выратаваць ім жыцці

Клініка UPMC, што знаходзіцца ў штаце Пенсільванія, правядзе выпрабаванні інавацыйнага метаду выратавання пацыентаў з цяжкімі траўмамі і вялікай стратай крыві.

Паводле статыстыкі, пры цяжкім раненні і вялікай страце крыві выжывае менш за 10% чалавек. Прычынай смерці становіцца спыненне сэрца, бо праз страту крыві арганізму бракуе кіслароду. Крытычны стан развіваецца за лічаныя хвіліны, і дактары бяссільныя ў большасці сітуацый.

Але каманда даследчыкаў пад кіраўніцтвам Сэмюэля Цішэрмана, Пітэра Сэфара і Пэта Качанэка прапанавала ўводзіць цяжка параненых людзей у анабіёз, каб запаволіць паміранне. Гэта дазволіць хірургам выгадаць час і спыніць крывацёк.

Для ўвядзення чалавека ў стан анабіёзу праз аорту параненага ў арганізм будуць закачваць халодны салявы раствор, які распаўсюдзіцца па целе і выцісне кроў. У выніку цела астыне да тэмпературы каля 10°С, пры якой метабалізм запавольваецца. Даследчыкі запэўніваюць, што чалавека можна вярнуць да жыцця нават праз 4 гадзіны, зноў закачаўшы ў цела прааперыванага кроў і нагрэўшы цела да нармальнай тэмпературы.

Цішэрман кажа, што да ідэі выкарыстання анабіёзу для лячэння цяжкапараненых падштурхнулі выпадкі ўтаплення людзей у ледзяной вадзе. Пасля рэанімацыйных мерапрыемстваў некаторыя з такіх тапельцаў вярталіся да жыцця праз даволі працяглы час.

Медыкі правялі эксперыменты на свіннях і атрымалі вельмі аптымістычныя вынікі: 90% жывёл перажылі працэдуру.

Цяпер даследчыкі заявілі, што правядуць даследаванні на дзесяці пацыентах клінікі UPMC, якія пакутуюць ад крывастраты і спынення сэрца, выкліканых раненнем. Амерыканскі ўрад выдаў дазвол на правядзенне выпрабаванняў працэдуры на людзях яшчэ ў 2011 годзе, аднак толькі цяпер даследаванні на пацыентах перайшлі ў актыўную фазу.

**Кірыла Хілько**

**Фотафакт**

**У Глыбокім усталявалі помнік Мюнхгаўзену**

20 траўня, напярэдадні святкавання 600-годдзя горада, у Глыбокім з'явіўся помнік барону Мюнхгаўзену работы мясцовых майстроў. Так, так! Літаратурнаму герою! Мюнхгаўзен з падзорнай трубой на ядры вылятае з гарматы!

А як звязаны Мюнхгаўзен з Глыбокім? Ды ніяк! Справа ў тым, што на старых гарадскіх могілках Копцеўка, гадоў 10 таму, знойдзеная цікавая магіла, дзе на чыгунным крыжы па-нямецку напісана: «Фердынанд і Вільгельміна фон Мюнхгаўзен», на іншым баку крыжа напісана: «Памерлі 31 сакавіка 1878 года». Як у той казцы — «жылі шчасліва і доўга ды памерлі ў адзін дзень».

Здавалася б – шараговы выпадак, цёзка самога слыннага барона Мюнхгаўзена, і не болей. Аднак дачуліся журналісты, дачуліся тэлеканалы.

Дык чаму Глыбокае павінна адмовіцца ад барона Мюнхгаўзена, хоць ён пра сціплае Глыбокае і ніколі не чуў? Гораду выгадна — турбізнэс! Народ гэтага хоча! Дарэчы, пра магілу Мюнхгаўзена ў Глыбокім ёсць інфармацыя і на сайце музея Мюнхгаўзена пад Рыгай.

**Уладзімір Скрабатун, Глыбокае**

# Квенцін Таранціна і Ума Турман афіцыйна сталі парай

Рэжысёр Квенцін Таранціна і яго муза — актрыса Ума Турман — уступілі ў рамантычныя адносіны праз дзесяцігоддзі сяброўства, паведамляе выданне US Weekly са спасылкай на крыніцу, знаёмую з сітуацыяй.

Рэжысёр і актрыса сталі сустракацца пасля таго, як месяц таму Ума скасавала заручыны са сваім жаніхом Арпадам Бюсонам, а рэжысёр разарваў працяглыя адносіны з мастачкай па касцюмах Кортні Хофман.

«Таранціна кахаў яе ўсе гэтыя гады. Ім даўно трэба было паспрабаваць перайсці на новы ўзровень адносінаў», — упэўнена сцвярджае іх знаёмы.

Па словах іншай крыніцы, Таранціна і Турман заўсёды цягнула адно да аднаго, аднак актрыса была занятая іншымі мужчынамі, таму іх стасункі не атрымалі развіцця раней.

**Сямён Цыбульскі**

**Камертон Сяргея Ваганава**

## Прэзумпцыя вінаватасці, альбо Базавы прынцып

Вось што я вам скажу: пасля 70-ці кожны няўчасны тэлефонны званок выклікае страсенне сэрца, нявызначаную трывогу і сумятню думак. Карацей кажучы, стрэс.

Яно так, бо раз-пораз сыходзяць блізкія табе людзі — сваякі, сябры дый проста добрыя знаёмыя, побач з якімі тваё ўласнае жыццё мела хаця б нейкі стваральны сэнс. Сумная з'ява. Але спрэс людская. Ці ж былі б мы людзьмі, калі б не хварэлі ды не паміралі?

Не паміраюць робаты.

Менавіта робат абудзіў мяне ў тую раніцу, каб нагадаць пра абавязак разлічыцца за камунальныя паслугі да 25-га... Інакш...

Не, я не даслухаў яго, кінуў слухаўку, як раблю кожны раз, калі пасля доўгага, падобнага да хваравітага дыхання, патрэсквання чую металічны, накшталт камісарскага, жаночы голас: «...ждите сообщения... ждите сообщения...» Гэта недзе з паўгода, калі ён (ці яна?) упершыню ўціснуўся ў маё жыццё, я, стрымліваючы трывожныя прадчуванні, чакаў «сообщения», ліхаманкава згадваючы, дзе тут найбліжэйшае бамбасховішча. Але я не ведаў, што ён толькі прыглядаўся да мяне, намацваў, так бы мовіць, межы маёй цярплівасці. І калі зразумеў, што мая цярплівасць бязмежная, вырашыў, што я знудзіўся па ім, чакаў усю ноч. І з'явіўся зрання...

Што праўда, уся ноч прайшла ў паўсне, ва ўспамінах пра нядаўна пахаванага сябра і змрочных думках пра несупынны бег часу...

Пацягнуўся па валідол і кінуў позірк на каляндар. 28 мая — амаль тыдзень, як я з ім разлічыўся. Чаго яму яшчэ трэба?!

І ў гэты момант ён з'явіўся ізноў. Я ізноў кінуў слухаўку. Праз паўгадзіны — ізноў... І так да апоўдня...

Мабыць, пакрыўдзіўся, вырашыў я. І патэлефанаваў у разліковы цэнтр, які штомесяц дасылае так званыя жыроўкі. Нарэшце! Нарэшце я пачуў мілагучны жаночы голас. «Слухайце, — сказаў я, — ваш упаўнаважаны робат з'ехаў з глузду... Я ж разлічыўся з дзяржавай ажно тыдзень таму». — «Як прозвішча?» Раптам мілагучны голас набыў усё тую ж камісарскую металёвасць: «Не маніце! Грошай ад вас няма».

Стыдно!

***Уважаемый собственник кв по ул.***

***Согласно ст.31 Жилищного кодекса Республики Беларусь плата за ЖКУ вносится собственником за каждый месяц не позднее 25-го числа, однако по состоянию на 28 мая 2014 Вашей оплаты нет.***

*Ставим ВАС в известность, что за неоплату ЖКУ будут применяться следующие меры:*

*-начисление* ***пени за каждый день*** *просрочки в размере* ***0,3%;***

*-отключение* ***коммунальных услуг (воды, электроэнергии, ТВ каналов и системы водоотведения (канализации));***

*-направлена* ***информация*** *о имеющейся задолженности* ***по месту Вашей работы;***

*-оформление и подача в суд документов на* ***принудительное взыскание средств.***

У рэшце рэшт размова пацякла ў да болю знаёмым рэчышчы: «Вы што, не ведаеце, колькі ў нас неплацельшчыкаў?» — «Не ведаю. Навошта мне гэта ведаць?» — «Як гэта навошта? Вас не цікавіць, у якім стане наша дзяржава?!» — «Ну, у пэўным сэнсе цікавіць. Але ў дадзеным выпадку ў мяне з дзяржавай асабістая замова. І прычым тут...» — «Пры тым, што вашых грошай няма. Вы — неплацельшчык!» — «Добра, неплацельшчык... А самі вы ведаеце, колькі іх? Хаця б на вашай тэрыторыі». — «Навошта мне гэта ведаць?»

Кола замкнулася. Адзіным выйсцем з яго стала паступовае высвятленне таго, што і пошта дрэнна працуе, і банкі марудзяць, і... «Дык разбярыцеся з поштай, банкамі, з неплацельшчыкамі — у судзе... Навошта людзей вашым робатам тыраніць?» — «Ну што вы прычапіліся да яго? Ён проста нагадвае, што трэба плаціць... Па прграме... Калі вы дасцё гарантыі, што будзеце плаціць, і абавязкова ў дамоўлены тэрмін, мы прыбярэм вас з базы...» — «А ў якім выглядзе даць вам гарантыі?» — «Ну... ну... Проста паабяцайце...»

...Нядаўна я ўдзельнічаў у журналісцкім семінары. Высвятлялася, чаму і адкуль з'яўляецца ў СМІ мова варажнечы. Чаму, да прыкладу, на гэтай мове ўсе каўказцы — махляры і забойцы, усе ўкраінскія нацыяналісты — фашысты і «бендэры», усе рускія — ушчэнт імперцы, а ўсе апазіцыянеры — адмарозкі і «пятая калона»...

Чаго ж яшчэ чакаць ад дзяржаў, нашчадкаў развалены камуністычнай імперыі, што ад пачатку размаўляла са сваімі грамадзянамі на мове варажнечы?!

Пад падазронасцю ўсе. Такі вось базавы прынцып.

Вось і лічыце, хто тут насамрэч вораг — людзі дзяржаве ці дзяржава людзям.

Хтосьці мо палічыць гэту гісторыю выпадковай дробяззю.

Ну, гэта як паглядзець.

**P.S.** Праз два дні, калі мяне нібыта «прыбралі з базы», я выцягнуў з паштовай скрыні вось такі «ліст шчасця» *(вышэй)*.

Што ж, глядзіце.

*kamerton_41@mail.ru*



АНТОН МАТОЛЬКА

**Цэлы тыдзень краіну залівала. У Мінску па традыцыі пад ваду пайшла Няміга. Праблемы падтаплення Нямігі знікнуць пасля завяршэння будаўніцтва калектара «Цэнтр» у канцы чэрвеня.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**1 чэрвеня ў Мінску прайшла традыцыйная працэсія Божага Цела, у якой узялі ўдзел да 4000 вернікаў. Святую Імшу перад касцёлам Найсвяцейшай Тройцы (Св. Роха) на Залатой Горцы ўзначаліў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі.**



**Кароль Іспаніі Хуан Карлас I адмовіўся ад пасады, яе зойме прынц Феліпе. У Іспаніі кароль з'яўляецца кіраўніком дзяржавы і галоўнакамандуючым, але рэальным кіраваннем краінай займаюцца парламент і ўрад. Каралеўская сям'я злева направа: прынцэса Летыцыя, наследны прынц Феліпе, каралева Сафія, яе ўнучкі інфанты Сафія і Леанор, кароль Хуан Карлас і інфанта Алена.**



**3 чэрвеня ў Мінску адчынілася 29-я станцыя метро — «Малінаўка». Яна знаходзіцца на рагу праспекта Дзяржынскага і вуліцы Ясеніна.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Тым часам ЗША адстаюць ад нас у сферы інфармацыйных тэхналогій. Напрыклад, на сайце адміністрацыі Нью-Ёрка нельга пабачыць графік адключэння гарачай вады.

* * *

На экзамене студэнт Кавалеўскі нечакана для сябе выцягнуў ваенны білет.

* * *

«Калі ж вы ўжо зразумееце: я не вуліца, я рака», — як бы намякае Няміга пасля кожнага вялікага дажджу.

* * *

Навошта расійскія баевікі захопліваюць на Данбасе супермаркеты? Ім Пуцін сказаў, што ў кожным украінскім магазіне прадаюцца танкі і БМП.

* * *

Злачынная бэндэраўская кіеўская хунта арганізавала генацыд карэннага чачэнскага насельніцтва Данецка.

* * *

Паведамленне расійскіх СМІ: сёння, у выніку абстрэлу верталётамі кіеўскай хунты аэрапорта ў Данецку пацярпела сто мірных жыхароў Гудэрмеса.

* * *

Урад ДНР захапіў школу, бо яму тэрмінова патрэбен хоць нехта, хто ведае больш за тры літары.

* * *

Пасварыліся з мужам. Не мыю. Не прыбіраю. Не гатую. Божа, толькі б мірыцца не надумаў!

* * *

Добрага бухгалтара знайсці цяжка, таму Вера Паўлаўна ўжо дваццаць гадоў лічыцца ў крымінальным вышуку.

## «НН» сто гадоў з вамі

У Чыстопалі (Казанская губерня) тамтэйшы спраўнік Ілеўскі захварэў на дзіўную хваробу: вымагаў, каб усе прыходзячыя да яго пераступалі парог правай нагой, каб апіраліся аб стол правым бокам, бралі за ручку правай рукой. Спраўніка аддалі ў бальніцу, і лекары кажуць, што ён хіба ўжо не выздаравее. Газеты называюць яго «ахвярай палітычнага курсу».

**«НН». №21. 1914.**

**Выпускнікі Беларускага ліцэя** вытрымалі экзамены экстэрнам. Палова ліцэістаў працягне адукацыю за мяжой, палова — застанецца ў Беларусі. На выпускным балі Ліцэя прысутнічалі дзеячы інтэлігенцыі і прадстаўнікі дыпкорпусу. Ліцэй робіць новы набор.

**«НН». №21. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 20.30 03.06.2014.
Замова №2385.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

9 771819 161008 14021

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12